*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*




# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 9 верасня 1988 г. № 36 (3446) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

У НУМАРЫ:



**Восеньскі матыў.**

Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.

## *11 ВЕРАСНЯ — МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ ПАМЯЦІ АХВЯР ФАШЫЗМУ*

**На ўвесь свет чуцен набат званоў Хатыні. Бясконцы паток людзей, якія павольна праходзяць міма велічнага і жалобнага помніка расстраляным і спаленым, міма сімвалічных падмуркаў і комінаў, міма унікальнай Сцяны памяці. І ў гэтым звоне, і ў гэтых лічбах, і ў гэтым шорганні крокаў быццам бы чуецца голас:**

**— Вы помніце нас, жывыя!**

# ЗАСТАНУЦЦА Ў ПАМЯЦІ НАРОДНАЙ

ТРЫВОЖНЫ голас загінуўшых, звернуты да жывых.

Калі ўдумацца — трывога не выпадковая. Усё менш і менш застаецца людзей, якія прайшлі горан вайны, глядзелі смерці ў вочы, перажылі пакуты пекла. Прыйшлі новыя пакаленні, у якіх памяць аб мінулым, аб вайне — адлюстраваная. Гэта ўжо не тая памяць, якая яшчэ ў рубцах і ранах, у незасыхаючай крыві, а іншая, пачэрпнутая ў старэйшых пакаленняў. Вольна або міжволі, у ёй нешта скажаецца, нешта выспявае новае і нечаканае, часам не зусім дакладнае. А кан'юнктура часам узмацняе такія скажэнні.

І мы, удзельнікі вайны, якія вывучалі яе героіку і трагедыі, лічым сваім абавязкам зрабіць усё магчымае, каб праўда аб ваенным часе не была замутнена пабочнымі наслаеннямі і наўмыснымі скажэннямі. Народу заўсёды будуць патрэбны дакладныя веды і аб яго героях, і аб яго ахвярах, панесеных у барацьбе з фашызмам. Да ведання праўды абавязвае яго сумленне і годнасць.

Прычынай для такой размовы паслужылі нам дзве акалічнасці. Першая і галоўная: беларускі народ пачаў падрыхтоўку да святкавання сямідзесяцігоддзя БССР і Кампартыі Беларусі. Гэта сямідзесяцігоддзе было напоўнена і гераічнымі, і трагічнымі падзеямі. Асабліва яркія старонкі савецкай гісторыі — перыяд Вялікай Айчыннай вайны. Ці ўсе, хто цяпер жыве, добра ведаюць героіку і трагедыі ваенных гадоў? Думаецца, што далёка не ўсе.

І другая акалічнасць, якая вынікае з першай: сёй-той робіць спробы, карыстаючыся недастатковай дасведчанасцю людзей, асабліва маладых, па нейкіх кан'юнктурных матывах унесці блытаніну ў сапраўднае становішча рэчаў, падтасаваць факты.

Прывядзём такі прыклад. Знайшліся людзі, якія паставілі пад сумненне: хто пахаваны ў брацкай магіле на вуліцы Талбухіна каля парку культуры і адпачынку імя Чэлюскінцаў? Маўляў, гэта не савецкія ваеннапалонныя, закатаваныя гітлераўцамі ў былым тут лагеры, а хтосьці іншы. Што паслужыла падставай для такога сцвярджэння? «Успаміны» нейкіх асоб, нікім і нічым нідзе не пацверджаныя.

Але сумненні кінуты, і недасведчаныя і даверлівыя людзі ўжо гатовы падхапіць іх і раздзьмуць.

Давайце паглядзім праўдзе ў вочы: што даюць такія «сенсацыі»? З фашысцкіх вылюдкаў здымаецца адказнасць за забойства соцень тысяч савецкіх людзей. А гэтага толькі і чакаюць нашы ідэйныя праціўнікі. Яны даўно ўжо заклікаюць нас забыць мінулае, забыць ахвяры фашызму, забыць генацыд, які ажыццяўлялі гітлераўцы на акупіраванай савецкай тэрыторыі. Хіба мы манкурты, што страцілі памяць? Хіба можам мы адступіцца ад сумлення і падыгрываць тым, хто скажае гісторыю мінулай вайны? Кроў нашых родных і блізкіх, нашых суайчыннікаў, пралітая за свабоду сацыялістычнай Айчыны, заклікае: беражыце ісціну!

Не прыпадабняючыся да аматараў «сенсацый», якія з лёгкасцю падмяняюць выдумкай факты рэальнай рэчаіснасці, мы раскажам аб практыцы генацыду, ажыццёўленай гітлераўцамі на беларускай зямлі, апіраючыся на канкрэтныя дакументы і сведчанні людзей, што перажылі тую вялікую трагедыю.

Браніраваныя полчышчы Гітлера, як вядома, уварваліся ў знявечаны бамбёжкамі Мінск 28 чэрвеня 1941 года. Услед за перадавымі часцямі прыцягнуліся і карнікі. У фашысцкай сістэме іх было многа: паліцыя бяспекі і СД, абвер, шутцпаліцыя, зондэркаманды. Кожная са сваёй шпіёнскай сеткай, са сваімі задачамі падаўлення любога супраціўлення гітлерызму. Не разлічваючы на цёплы прыём з боку савецкіх людзей, у сваім абозе яны прыцягнулі розных белаэмігрантаў, у тым ліку і беларускіх буржуазных нацыяналістаў тыпу Тумаша, Казлоўскага, Іваноўскага, Дземідзецкага - Дземідовіча, Езавітава, Станкевічаў, Ермачэнкі, Лазарэвіча, Кушаля з яго фашыствуючай «палавінай» Натальляй Арсеньевай і іншымі. Увесь гэты зброд з першых жа дзён акупацыі Мінска ўзяўся фізічна і духоўна знішчаць беларускі народ.

Пазіцыя гітлераўцаў у адносінах да беларусаў была ясна сфармулявана ў выказванні Гітлера: «Калі мы хочам стварыць нашу вялікую германскую імперыю, мы павінны перш за ўсё выцесніць і знішчыць славянскія народы — рускіх, палякаў, чэхаў, славакаў, балгар, украінцаў і беларусаў». Як бачым, усіх без выключэння. У святле гэтай канцэпцыі фальшывымі з'яўляюцца спробы буржуазных гісторыкаў, ды і некаторых нашых падгалоскаў сцвярджаць, быццам зверствы фашыстаў выкліканы супраціўленнем зняволеных народаў. Бо знаходзіліся і ў нас людзі, якія сцвярджалі, што калі б не партызаны, то гітлераўцы не былі б такімі жорсткімі. Усёй сваёй практыкай фашысты самі абверглі сваіх пасляваенных абаронцаў.

Вернемся зноў да Сцяны памяці, аб якой размова ішла ў пачатку артыкула. Заглянем хоць бы ў некалькі нішаў яе. Там напісаны назвы населеных пунктаў і колькасць асоб, закатаваных фашысцкімі варварамі. Чытаем: Баранавічы—31 тысяча чалавек, у тым ліку на тэрыторыі турмы — 20 тысяч, Бабруйск — 41 тысяча, Брэст — 34 тысячы, Бронная Гара Брэсцкага раёна — звыш 50 тысяч, Віцебск — больш як 137 тысяч, Ваўкавыск — 20 тысяч, Гомель — больш як 100 тысяч, Гродна — звыш 30 тысяч, Магілёў — 70 тысяч, Крычаў — каля 24 тысяч... І так ад нішы да нішы...

А што за гэтымі лічбамі? Прывядзём такі прыклад.

...Першая палавіна сакавіка 1944 г. Фронт прыйшоў на беларускую зямлю. Гітлераўцы адабралі найбольш здаровых мірных жыхароў прыфрантавой паласы і ўгналі на катаргу ў Германію. Засталіся старыя, жанчыны, дзеці. Іх фашысцкія вылюдкі асудзілі на знішчэнне. Прычым, самым зверскім спосабам. Выглядала гэта так.

Каля вёсак Халмы і Мядзведаў Даманавіцкага раёна Палескай вобласці яны выбралі балоты, якія зараслі рэдкімі дрэвамі, абнеслі іх некалькімі радамі калючага дроту. У адным лагеры ўтрымлівалася 9 тысяч чалавек, у другім — 40 тысяч, з іх 70 працэнтаў старых і дзяцей.

Зняволеным былі створаны нечалавечыя ўмовы існавання. У мяцеліцу і дождж яны не мелі даху над галавой, было забаронена разводзіць кастры. Людзям не давалі ежы і вады, прыйшлося піць іржавую балотную ваду. А каб паскорыць працэс масавага ўмярцвлення, у лагеры завезлі хворых на сыпны тыф і дызентэрыю, выклікалі эпідэмію. Тысячы людзей паміралі штодзень.

Або вось як гітлераўцы расправіліся з жыхарамі в. Байкі Ружанскага раёна. 22 студзеня 1944 года яны ўварваліся ў вёску, усё насельніцтва сагналі ў хлявы, затым аддзялілі жанчын ад мужчын і дзяцей. Мужчын расстрэльвалі групамі па 6-7 чалавек. Раненых кідалі жывымі ў яму. Жанчын спалілі жывымі ў хлявах. Страшную, пакутлівую смерць прыдумалі дзецям. На іх нацкавалі 15 аўчарак. Пакалечаных дзяцей спалілі зажыва. Па асветленай пажарам вуліцы сабакі цягнулі разарваных імі дзяцей. У доме Васіля Іванавіча Гайдука фашысты схапілі за ножкі нованароджанае дзіця і ўдарылі аб сценку, а парадзіху забілі ў пасцелі.

Падобных прыкладаў мы маглі б прыводзіць бясконцае мноства. Прызнаемся: нават пісаць аб гэтым вельмі цяжка. Быццам чуеш крыкі і стогны бязвінных ахвяр фашызму.

Мы абяцалі аперыраваць канкрэтнымі дакументамі, таму папросім чытачоў не крыўдзіцца на нас за сухое выкладанне фактаў: дакумент ёсць дакумент. Ён больш пераканаўча за красамоўныя меркаванні пацвердзіць сказанае.

Вось дакладная запіска міністэрскага саветніка Дорша рэйхслейтэру Розенбергу аб лагеры ваеннапалонных і цывільных асоб у прыгарадным пасёлку Драздзы, напісаная 10 ліпеня 1941 года:

**«У лагеры для ваеннапалонных у Мінску, размешчаным на тэрыторыі размерам з плошчу Вільгельмплац, знаходзяцца прыблізна 100 тысяч ваеннапалонных і 40 тысяч цывільных палонных. Палонныя, загнаныя ў гэтую цесную прастору, ледзь могуць варушыцца і вымушаны спраўляць прыродныя патрэбнасці там, дзе стаяць. Гэты лагер ахоўваецца камандай кадравых салдат колькасцю да адной роты. Ахова лагера такой маленькай камандай магчыма толькі пры ўмове прымянення самай жорсткай сілы.**

**Ваеннапалонныя, праблема харчавання якіх наўрад ці вырашальная, жывуць па 6-8 дзён без ежы, у стане жывёльнай апатыі, выкліканай голадам, і ў іх адно імкненне — дастаць што-небудзь з ежы. Цывільныя палонныя ва ўзросце ад 15 да 50 гадоў — жыхары Мінска і яго ваколіц. Гэтыя цывільныя палонныя забяспечваюцца харчаваннем іхнімі сваякамі. Праўда, харчаванне атрымліваюць толькі тыя, сваякі якіх з раніцы да вечара стаяць з прадуктамі ў бясконцых чэргах, што цягнуцца да лагера. Уначы галодныя цывільныя нападаюць на тых, хто атрымаў перадачу, каб сілай здабыць сабе кавалак хлеба.**

**У адносінах да палонных адзіна магчымая мова слабай аховы, якая суткамі нясе нязменную службу, — гэта агнястрэльная зброя, якую яны бязлітасна прымяняюць...»**

Вось так рукой фашысцкага служакі аб'ектыўна (гэта трэба прызнаць) дадзена карціна жорсткай расправы акупантаў над савецкімі людзьмі.

Варта звярнуць увагу на азначэнне «цывільныя палонныя». Для гітлераўцаў было ўсё роўна: савецкія ваеннапалонныя або просты мірны чалавек. Ён жа таксама савецкі, значыць, падлягае знішчэнню.

Камандзір 52-й фашысцкай дывізіі, крывавы шлях якой праходзіў праз Беларусь, у адным з загадаў пісаў: «Усіх мірных жыхароў ва ўзросце, прыдатным для ваеннай службы, у абавязковым парадку ператвараць у ваеннапалонных». Вось радкі з загаду камандзіра 101-га фашысцкага мотапалка 18-й танкавай дывізіі ад 12 снежня 1941 года: «Усіх мужчын, здольных насіць зброю, затрымліваць і адпраўляць на зборныя пункты ваеннапалонных». На справе гэта значыць накіроўваць на знішчэнне. Вялікая колькасць цывільнага насельніцтва ўтрымлівалася пад выглядам ваеннапалонных у многіх лагерах на часова акупіраванай гітлераўцамі тэрыторыі і там была знішчана.

У паведамленні Надзвычайнай дзяржаўнай камісіі па ўстанаўленню і расследаванню злачынстваў нямецка - фашысцкіх захопнікаў і іх саўдзельнікаў чытаем: «На паўночны ўсход ад канцэнтрацыйнага лагера, які знаходзіўся на тэрыторыі пасёлка Драздзы, знойдзена траншэя-канава 400 м удаўжыню, 2,5 м ушырыню і 2,5 м углыбіню. Пры раскопках у некалькіх месцах траншэі на глыбіні 0,5 м знойдзены астанкі трупаў (чэрапы, косці) і струхлелае адзенне. Следствам устаноўлена, што ў гэтай траншэі-канаве пахавана каля 10 тысяч расстраляных немцамі савецкіх грамадзян.

Масавыя магілы закатаваных немцамі савецкіх людзей выяўлены на мінскіх яўрэйскіх могілках, у Тучынцы, на кальварыйскіх могілках, у парку культуры і адпачынку і іншых месцах».

У 1950 годзе ў Мінску праходзіў працэс па справе здраднікаў радзімы Н. А. Котава, М. Т. Міцкевіча, Д. М. Бароўскага, Д. М. Тоўсціка. Гэтыя былыя карнікі на судзе паказалі, што ў 1942 годзе ў раёне вёскі Бараўляны Мінскага раёна акупантамі быў створан штрафны лагер, у якім утрымліваліся арыштаваныя савецкія грамадзяне розных нацыянальнасцей. Лагер існаваў да выгнання нямецка-фашысцкіх захопнікаў з тэрыторыі Мінскай вобласці.

Такія ж здраднікі, якія служылі фашыстам і былі асуджаны ў пасляваенны час, І. І. Мінковіч, С. В. Лошыцкі, А. К. Рыбко ў сваю чаргу засведчылі, што ў 1941—1944 гадах фашыстамі праводзіліся расстрэлы савецкіх грамадзян на ўскраіне Мінска у раёне саўгаса «Зялёны Луг», вёсак Дубаўляны, Кожухава, Паперня Мінскага раёна.

Мінчане старэйшага пакалення, якія перажылі фашысцкую акупацыю, і да гэтага часу добра памятаюць дзень 28 студзеня 1942 года. Па Савецкай і Пушкінскай вуліцах ад вакзала да парку культуры і адпачынку імя Чэлюскінцаў цягнулася калона ваеннапалонных. Іх, голых і галодных, спачатку вазілі ў таварняках да Бабруйска і назад, жывымі замарожваючы, а тых, хто змог уцалець, не скалець, пагналі быццам бы ў лагер у парк Чэлюскінцаў. Калі калона расцягнулася амаль на ўвесь горад, канваіры адкрылі па ёй аўтаматны і кулямётны агонь. Трупамі былі пакрыты Савецкая і Пушкінская вуліцы (цяпер праспект Леніна). Так гітлераўцы адпомсцілі савецкім ваеннапалонным за спробу узняць паўстанне.

Як сведчыць загад па фашысцкай камендатуры ахоўваемых абласцей Беларусі (707 пяхотная дывізія) ад 5 студзеня 1942 года, «Паўстанне было прызначана на 04.01.42 г. на 4 гадзіны раніцы. Існуе думка, наколькі можна меркаваць, што паўстанне ўдалося б на сто працэнтаў...» Але гітлераўскія контрразведчыкі заслалі ў кіраўніцтва паўстаннем правакатара. І вось вынік: тысячы савецкіх патрыётаў насмерць замарожаны або расстраляны гітлераўскімі катамі. Прах іх знаходзіцца пад абеліскам каля парку Чэлюскінцаў.

Ёсць яшчэ адно пераканаўчае сведчанне аб тым, чые астанкі знаходзяцца ў гэтай брацкай магіле. Актыўны ўдзельнік Мінскага партыйнага падполля Іван Канстанцінавіч Кабушкін (падпольная мянушка Жан), пасмяротна ўдастоены звання Героя Савецкага Саюза, у верасні 1942 года хадзіў у адзін з партызанскіх атрадаў у раён возера Палік. Карыстаючыся выпадкам, вырашыў напісаць пісьмо сваякам у Казань і адправіць з партызанскай поштай на Вялікую зямлю. Пісьмо гэтае чамусьці не было адпраўлена па адрасу, аказалася ў партызанскіх паперах і пасля вайны трапіла ў партархіў, дзе знаходзіцца і цяпер. Прывядзём урывак з яго:

«У Мінску ёсць парк культуры і адпачынку, а насупраць яго ў недабудаваных памяшканнях знаходзіцца лагер ваеннапалонных. Як іх там білі, марылі голадам, нават вады не давалі ўволю! І вынік — за шэсць месяцаў мінулага года было кінута ў ямы адзін на аднаго і пастаўлен помнік вышынёй каля двух метраў і шырынёй больш метра. Атрымліваецца квадрат. На ім напісаны прозвішчы і імёны пахаваных. Вельмі і вельмі многа. А ўнізе з аднаго боку напісана: «2859 невядомых» — так і з іншых бакоў.

Усяго не апішаш. Я сам сведка і на сённяшні дзень жывы. Буду помсціць за разбурэнне нашых вёсак і гарадоў, за здзекі...»

Ці патрэбны іншыя доказы таго, хто пахаваны ў брацкай магіле ля парку Чэлюскінцаў? Мы не можам так многа месца ўдзяляць аднаму пахаванню савецкіх людзей, загубленых фашыстамі ў Мінску, таму што ў нас ёсць вялікія матэрыялы аб іншых брацкіх магілах, якія не маем права абысці маўчаннем.

На выездзе з Мінска па Заслаўскай шашы, у мікрараёне Масюкоўшчына за агароджай

(Заканчэнне на стар. 4).

# ЗАСТАНУЦЦА Ў ПАМЯЦІ НАРОДНАЙ

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 3).

узвышаецца абеліск. Ён узведзен над брацкай магілай закатаваных голадам, холадам і расстраляных 80 тысяч савецкіх ваеннапалонных. Астанкі іх звезены сюды пасля вайны з некалькіх бліжэйшых пахаванняў. Усё гэта вязні «шталага нумар 352».

Існаваў гэты лагер з ліпеня 1941 г. па 3 ліпеня 1944 г. да дня вызвалення Мінска Чырвонай Арміяй. Надзвычайная дзяржаўная камісія па ўстанаўленню злачынстваў фашыстаў даручыла спецыяльнай судова-медыцынскай экспертнай камісіі правесці судова-медыцынскую экспертызу на тэрыторыі лагера. Чытаеш акт гэтай камісіі, і бярэ жах, да якой ступені звер'ства, жорсткасці могуць дайсці людзі, адурманеныя фашызмам!

Адзін з цудам уцалелых зняволеных гэтага шталага Г. А. Воранаў паказаў Надзвычайнай дзяржаўнай камісіі:

— Памяшканні, у якіх мы былі размешчаны, уяўлялі сабой два цёмныя паўразбураныя хлявы — немцы называлі іх баракамі нумар 21 і 22. У адтуліны ўверсе хлявоў урываўся ўнутр страшэнны холад. Яны ж служылі крыніцай дзённага святла. У хлявах не было ацяплення, адсутнічаў таксама насціл, падлога была земляная. У гэтых хлявах быў жудасны бруд, смурод, цемната. Неймаверны холад скоўваў змардаваных і змучаных людзей...

Харчаванне складалася з сутачнай выдачы хлеба 80—100 г і 2 кубкаў ячнага супу, зваранага з гнілой мёрзлай бульбай разам з саломай. На працягу 2 тыдняў усе тыя, хто спачатку яшчэ мог перастаўляць ногі, зусім абяссілелі...

Аднойчы ў звычайную гадзіну кармлення разнесліся чуткі, што ежу выдаваць не будуць. Праз некалькі гадзін пачулася каманда выйсці ўсім з барака. На вуліцы нас усіх пастроілі, павялі на пляц і паставілі на паверкі. Праз некаторы час паявіўся перакладчык, які аб'явіў нам, што лагерным афіцэрам Ліпам усе палонныя пакараны за паломку нараў, застаюцца без ежы на пляцы на працягу сутак. Гэта было ў сярэдзіне лістапада. На вуліцы быў моцны холад. Сярод нас было многа хворых, раненых і зусім раздзетых. Праз 1—2 гадзіны людзі не ў стане былі вытрымаць страшэнны холад, пачалі крычаць і прасіць, каб спынілі і адмянілі немцы сваё пакаранне. З'явіўся перакладчык і прапанаваў мнагатысячнаму натоўпу прасіць прабачэння на каленях. Прыкладна 2 гадзіны поўзала вялікае мноства людзей на каленях, просячы вярнуць назад у барак. Тады здалёк паказаўся начальнік лагера Ліп. Убачыўшы мнагатысячны натоўп, застаўшыся, відаць, гэтым відовішчам задаволены, даў, нарэшце, загад пералічыць нас і вярнуць у барак. Такім чынам, нас трымалі на холадзе больш як 7 гадзін. У гэты раз на пляцы засталіся больш як 200 чалавек акалелых...

Як бачым, для гітлераўцаў важна было не проста фізічна знішчыць савецкіх людзей, а спачатку давесці іх да страты самавалодання, маральна, псіхічна прыдушыць, закатаваць, крайне прынізіць іх чалавечую годнасць, пазбавіць іх чалавечага аблічча. Садызм фізічны дапаўняўся садызмам псіхалагічным. У гэтым з найбольшай паўнатой праяўлялася сутнасць фашызму.

Мінская зямля была ператворана фашыстамі ў поле пакарання смерцю. Яшчэ раз звяртаемся да сведчання Надзвычайнай дзяржаўнай камісіі, якая ў верасні 1944 года расследавала злачынствы гітлераўцаў у Мінску і яго наваколлі. Узначальваў яе Старшыня Саўнаркома БССР П. Панамарэнка, членамі былі генерал-маёр, Герой Савецкага Саюза В. Казлоў, народны паэт БССР, акадэмік Я. Колас, член Прэзідыума Усеславянскага камітэта Ц. Гарбуноў, кандыдат медыцынскіх навук І. Стальмашонак, народны пісьменнік БССР М. Лынькоў, а таксама ўдзельнічаў у гэтай рабоце прадстаўнік Надзвычайнай дзяржаўнай камісіі В. Табелеў.

«Ва ўрочышчы Благаўшчына, — гаворыцца ў паведамленні камісіі, — знойдзены 34 ямы-магілы, замаскіраваныя хвойнымі галінамі. Некаторыя магілы дасягаюць удаўжыню 50 м. Пры частковым раскрыцці 5 магіл у іх на глыбіні 3 м знойдзены абгарэлыя трупы і слой попелу таўшчынёй ад 0,5 м да 1 м, паблізу ям камісія знайшла мноства дробных чалавечых касцей, валасы, зубныя пратэзы і мноства розных дробных рэчаў асабістага ўжытку. Следствам устаноўлена, што тут фашысты знішчылі да 150 тысяч чалавек.

За 450 м ад былога хутара Петрашкевіча знойдзены 8 ям-магіл размерам 21 м удаўжыню, 4 м ушырыню і 5 м углыбіню. Перад кожнай ямай-магілай ёсць велізарныя залежы попелу, які застаўся ад спальвання трупаў. Сярод попелу знойдзены астанкі абгарэлых і абпаленых касцей, пучкі валасоў, дробныя металічныя рэчы, абгарэлы жаночы і дзіцячы абутак. Следствам устаноўлена, што на былым хутары Петрашкевіча немцы спалілі да 25 тысяч расстраляных мірных жыхароў гор. Мінска».

Такія ж пахаванні Надзвычайная дзяржаўная камісія знайшла ва ўрочышчы Уручча, на 9 кіламетры па аўтамагістралі Мінск — Масква. Там выяўлена 10 ям-магіл, усе глыбінёй ад 3 да 5 метраў, даўжынёй 21—35 метраў. У магілах былі ўтрамбаваны 3 падоўжаныя рады трупаў у 7 пластоў кожны. Усе трупы ляжалі ўніз тварам, многія адзеты ў чырвонаармейскую форму часцей танкавых войск. У кішэнях адзення некаторых знойдзены дакументы, гадзіннікі, савецкія грошы і розныя прадметы асабістага карыстання. Пераважны ўзрост загінуўшых — ад 20 да 30 гадоў. У магілах знойдзены таксама некалькі трупаў жанчын у цывільным адзенні. Ля магіл і ў магілах выяўлена вялікая колькасць стрэляных нямецкіх гільз.

Сапраўднай Галгофай для больш чым 200 тысяч чалавек стаў фашысцкі лагер смерці Трасцянец. Па колькасці ўмярцвёных тут ён займае адно з першых месц у свеце. Гэта была сапраўдная мясарубка. Яна дзейнічала нават тады, калі сюды даносіўся гром кананады наступаючай Чырвонай Арміі. Ужо ў самы апошні дзень перад вызваленнем Мінска ў Трасцянцы былі расстраляны, а затым і спалены актыўныя падпольшчыкі Мінска дацэнты Белдзяржуніверсітэта Я. Зубковіч і А. Вязовіч, асістэнтка З. Завістовіч і іншыя члены разведгрупы, якую ўзначальваў Архіп Прытычын.

Калі мы пішам аб Трасцянцы, міжволі задаём сабе пытанне: чаму гэтае месца, дзе знаходзяцца спаленыя косці больш чым двухсот тысяч савецкіх грамадзян, так мала ведаюць у свеце? Ва ўсіх краінах, калі гавораць аб зверствах фашыстаў, успамінаюць французскае сяло Арадур, чэхаславацкае Лідзіцэ, і правільна, што ўспамінаюць, але там былі асобныя сёлы, ды і пакараны толькі мужчыны. А ў нас у адным месцы ўмярцвёна і спалена столькі людзей усіх узростаў і многіх нацыянальнасцей, ды рэдка калі пачуеш слова «Трасцянец»!

Ёсць усе падставы лічыць, што месцы масавых пахаванняў савецкіх патрыётаў, забітых фашыстамі, выяўлены далёка не ўсе. І нават устаноўленыя — не заўсёды адзначаны помнікамі. Пішам аб гэтым з горыччу, з душэўным болем. Разлічваем, што наш боль адзавецца ў сэрцах тых, хто прачытае гэтыя радкі.

Але вернемся да таго, з чаго пачалі — да расказу аб злачынствах фашыстаў на беларускай зямлі.

Мы коратка расказалі толькі аб некалькіх месцах у Мінску і вакол Мінска, дзе выяўлены брацкія магілы. Іх многа. Звыш 400 тысяч чалавек пад кулямі фашыстаў пралілі сваю кроў на мінскую зямлю. А кожнае жыццё — гэта цэлы свет. Хто скажа, колькі матэрыяльных і духоўных каштоўнасцей маглі б стварыць загінуўшыя? Наколькі бяднейшым стала чалавецтва, страціўшы ў лагерах смерці, у іх крэматорыях найбольш працаздольную частку сваю? Хто і ў якой меры змерыць гора і пакуты родных, блізкіх ахвяр фашызму?

Мы ўжо некалькі закраналі практыку духоўнага генацыду, ажыццёўленую гітлераўцамі на беларускай зямлі. Але аб гэтым трэба пагаварыць больш грунтоўна.

Згодна з планам «Ост», гітлераўцы разлічвалі знішчыць 75 працэнтаў беларусаў, а 25 працэнтаў (як яны пісалі, арыйскага тыпу) пакінуць у якасці рабочай сілы для абслугоўвання саміх «арыйцаў». Асуджаных на рабства 25 працэнтаў беларусаў збіраліся пазбавіць нацыянальнай культуры, гістарычнай памяці і анямечыць. Сваю жудасную задуму яны пачалі ажыццяўляць з першых жа дзён акупацыі Беларусі.

У сувязі з гэтым варта прывесці вытрымку з пісьма галоўнага ката беларускага народа, генеральнага камісара Беларусі Вільгельма Кубэ рэйхсміністру акупіраваных усходніх абласцей Розенбергу ад 29 верасня 1941 г. «У Мінску, — паведамляў обергарабежнік свайму начальству, — знаходзілася вялікая, часткова вельмі каштоўная калекцыя твораў мастацтва і палотнаў, якая цяпер амаль поўнасцю вывезена з горада. Па загаду імперскага міністра рэйхсфюрэра СС Генрыха Гімлера большасць карцін часткова яшчэ ў той час, калі я ўжо ўзначальваў ведамства, была ўпакавана людзьмі СС і адаслана ў Германію. Размова ідзе аб мільённых каштоўнасцях, вывезеных з генеральнай акругі Беларусі. Карціны павінны быць пасланы ў Лінц і Кёнігсберг ва Усходняй Прусіі. Я прашу гэтыя каштоўныя калекцыі, — паколькі ў іх не акажацца патрэбы ў Германіі, — зноў прадставіць у распараджэнне генеральнай акругі Беларусі або ва ўсякім выпадку пакінуць матэрыяльную вартасць гэтых калекцый за міністэрствам па справах акупіраваных усходніх абласцей».

Паводле сведчання аднаго маёра 707-й дывізіі, які перадаў мне сёння астатнія каштоўнасці, СС прадаставіла асобныя карціны і прадметы мастацтва — вельмі каштоўныя карціны і мэблю XVIII і XIX стагоддзяў, вазы, вырабы з мармуру, гадзіннікі і г. д. — на далейшае раскраданне германскай арміі. Генерал Штубенраўх захапіў з сабой з Мінска каштоўную частку гэтых калекцый і павёз іх у вобласць ваенных дзеянняў. Зондэрфюрэры, прозвішчы якіх мне яшчэ не былі паведамлены, павезлі 3 грузавікі (без квітанцыі) з мэбляй, карцінамі і прадметамі мастацтва. Я загадаю ўстанавіць нумары гэтых часцей, каб накласці спагнанні на вінаватых у грабяжы.

З таго, што засталося, тутэйшыя ваенныя ўстановы і ўстановы СС без маёй згоды ўзялі яшчэ цэлы рад прадметаў і карцін, хоць гэтыя прадметы яшчэ могуць быць знойдзены ў Мінску... Гістарычны музей таксама зусім спустошаны. З геалагічнага аддзялення выкрадзены каштоўныя і паўкаштоўныя камяні».

Просім прабачэння ў чытачоў за такую доўгую цытату. Але цяжка лепш за яе абрысаваць грабеж беларускай нацыянальнай культуры, учынены гітлераўскай арміяй. Ну, а што датычыць «клопату» Кубэ аб культурных каштоўнасцях беларускага народа, то ён, гэты «клопат», зусім не бескарыслівы. Генеральны камісар абураны, што такі велізарны куш выслізнуў з яго лап. Ваенныя разбойнікі і войскі СС апярэдзілі галоўнага акупанта Беларусі і паспелі раней за яго ўхапіць тое, што ляжала бліжэй. Як гаворыцца, злодзей у злодзея...

Грабеж гэты меў і другі бок. Нацысты хацелі пазбавіць беларусаў не толькі культуры, але і гістарычнай памяці, без якой немагчымы народ. Яны пры адступленні пацягнулі ў Берлін і Кёнігсберг паўтара мільёна надзвычай каштоўных кніг з мінскіх бібліятэк, у тым ліку такія унікальныя, як Збор старадрукаваных выданняў Францыска Скарыны, першае выданне Літоўскага статута, калекцыі рукапісаў Янкі Купалы, Максіма Багдановіча, Змітрака Бядулі. Разбурылі ўсе вышэйшыя навучальныя ўстановы, Акадэмію навук БССР, тэатры, музеі, школы.

Ганебную ролю ў разграбленні культурных каштоўнасцей Беларусі адыгралі беларускія буржуазныя нацыяналісты. Яны таксама хапалі, што маглі. Гэта з іх удзелам унікальныя кнігі апынуліся цяпер у сталіцах заходніх краін. Працоўныя рэспублікі спадзяюцца, што Беларускаму аддзяленню Фонду культуры ўдасца хоць бы часткова вярнуць украдзеныя культурныя каштоўнасці народу, які іх стварыў.

Гаворачы аб злачынствах фашыстаў на акупіраванай беларускай зямлі, мы вялі размову ў асноўным аб Мінску і яго наваколлі. Немагчыма ў адным артыкуле падрабязна расказаць аб усёй рэспубліцы. Таму ў заключэнне мы абмяжуемся агульнымі лічбамі і фактамі. Яны дадуць уяўленне аб тым, якое бедства прыйшлося перажыць беларускаму народу за гады гітлераўскага нашэсця.

Вось, можна сказаць, галоўная лічба: у Беларусі фашысцкімі акупантамі знішчана звыш 2200000 чалавек. Праўда, у нас ёсць важкія падставы лічыць, што яна далёка не поўная, але аб гэтым пагаворым у іншы раз. Акупанты спалілі, разграбіўшы, 209 гарадоў і пасёлкаў гарадскога тыпу, 9200 вёсак, з якіх 5295 спалены разам з людзьмі, 10 тысяч калгасаў, 92 саўгасы, 316 МТС, 100465 прамысловых будынкаў, 1200000 сельскіх збудаванняў. Словам, поўнасцю спустошылі рэспубліку.

А цяпер давайце вось гэту галоўную лічбу — 2200000 уявім не ў выглядзе дзвюх двоек і пяці нулёў, а жывымі людзьмі — мужчынамі і жанчынамі, старымі і маладымі, дзецьмі, цывільнымі і ваеннымі. Уявім іх у адным месцы, на адной плошчы або ідучымі ў калоне. Якая павінна быць плошча, каб змясціць столькі людзей? Колькі часу праходзіла б па плошчы такая калона?

І вось яшчэ ўявім сабе, як кожны з іх памірае насільнай смерцю: змучаны голадам, замярзаў у лагерным бараку зімой, задыхаўся, жывым закапаны ў магіле, стаяў перад ровам, чакаючы кулю ў патыліцу, курчыўся на дыбе ў засценку СД... Якой меркай можна змераць мукі і пакуты двух мільёнаў двухсот тысяч людзей? Нават самая нястрымная, самая жорсткая фантазія не ў стане перадаць гэты жах, прынесены на беларускую зямлю гітлераўскімі вырадкамі. Гісторыя не ведала такога.

Дык ці маем права мы, што засталіся жывымі, наследнікі і нашчадкі мучанікаў і пакутнікаў, забываць пра іх сёння і ў будучым?

Гэтае пытанне мы задаём тым, хто лічыць, быццам у славян няма культу продкаў.

Не ведаем, як наконт культу, а вось павага і пашана да продкаў, асабліва да мучанікаў і пакутнікаў, у славян былі яшчэ ў старажытныя, язычніцкія часы. Захаваліся яны і пры ўвядзенні хрысціянства на Русі. Уваходзяць яны састаўной часткай у мараль камуністаў. Забываць продкаў — гэта забываць сваё мінулае. А без гістарычнай памяці народ — не народ.

Рыхтуючыся да вялікага свята — 70-годдзя БССР і Кампартыі Беларусі, мы па абавязку сумлення, захоўваючы нашы маральныя прынцыпы, аналізуючы пройдзены за сем дзесяцігоддзяў цяжкі, часам пакутлівы, але гераічны шлях, абавязаны мысленна бачыць і велізарныя дасягненні свайго народа, і памылкі і промахі, а разам з тым не забыць ні сваіх герояў, ні ахвяр фашызму. Не забыць кожнага чацвёртага. Не забыць прадстаўнікоў усіх народаў, якія загінулі на беларускай зямлі.

Вечная памяць ім і гарачая ўдзячнасць у нашых сэрцах і ў сэрцах людзей будучых пакаленняў!

**Іван НОВІКАЎ,**
**заслужаны дзеяч культуры БССР, лаўрэат Дзяржаўных прэмій БССР, пісьменнік.**
**Васіль РАМАНОЎСКІ,**
**доктар гістарычных навук.**
(БЕЛТА).

## Да 160-годдзя з дня нараджэння Л. М. Талстога

У ЗАХОДНЯЙ Беларусі імя Льва Талстога шанавалася на вёсках яшчэ з царскіх часоў, калі вялікі мысліцель і пісьменнік смела заступаўся за мужыка. Крыў-

дзенне. Ненатоленая смага душы збірала спіхнутых на сацыяльныя задворкі людзей, яднала дзеля абмену духоўнымі скарбамі, злыбеднымі пытаннямі і патрэбай разам шукаць адказаў на іх. Праўда, людзі

Л. Талстога самастойна, цераз кнігі. Пакінуўшы гімназію, яны ў Талстога сустрэлі апраўданне і маральнае ўзвышэнне свайго новага становішча. Заключны раздзел трактата «Так что же нам делать?» быў як бы на-



# Шлях да Талстога

Уладзімір Калеснік

### СТАРОНКІ БУДУЧАЙ КНІГІ

да, якую цярпелі працоўныя заходнебеларускія сяляне ў буржуазнай Польшчы, прыводзіла іх да Талстога як да маральнага аўтарытэта, прапаведніка справядлівасці. Талстой быў для іх адукаваным, знатным чалавекам, які сам адрокся ад належных яму прывілеяў, даброт жыцця і пайшоў да селяніна, падняў у вачах свету прэстыж хлебароба, вартасць яго няхітрай працы і цяжкога сумленнага жыцця. Ён асабліва паяднаў працу духоўную з працай фізічнаю, хлеб надзённы з хлебам для душы. Л. Талстой аддзяліў мараль і нават бога ад царквы, сустрэўшы ў евангеллі абшчынна-апостальскі прынцып братэрскага сужыцця паміж людзьмі—палюбі бліжняга свайго, як самога сябе—ён вышукваў гэты ж прынцып у будыйскіх і кітайскіх канфуцыянскіх кнігах, даводзіў універсальнасць, агульначалавечы характар асноўных прынцыпаў маралі. Пагарджаючы раскошамі, граф Талстой браў у рукі саху і ехаў араць, браў у рукі шыла, дратву ды сам шыў сабе боты, а разам з тым пісаў кнігі, ды такія, што іх ведае ўвесь свет. Прывыкшы бачыць маралістам папа́, мулу (у Міры была і татарская абшчына), ксяндза, рабіна, а па сумяшчальніцтву кожны з іх мог быць гультаём, лгуном і распуснікам — селянін глядзеў на жыццё і вучэнне Талстога, як на ўзор. Праўда, цвярозасць і практычная струнка падшэптвалі земляробу пытанне, а чаму такі прыклад, які дае Л. Талстой, не мае паслядоўнікаў у паноў. Ці не святая гэта нязбыўнасць?.. Пан хіба тады пойдзе араць, касіць ды сеяць, калі яго прыцісне бяда. Такое здарылася, між іншым, у ваколіцах Загора, дзе жыла сям'я Янкі Брыля. Паніч Лёлік Лісіцкі пакінуў выпускны клас Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі, вярнуўся ў фальварак да касы і плуга. Аднак рашыўся ён на гэта тады, калі фальварак дайшоў да банкруцтва: бацькі састарэлі, а браты—адзін захварэў псіхічна, другі апусціўся, стаў абібокам. Рэальнасць ахалоджвала веру сялян у ідэалы Талстога, прымушала глядзець на яго, як на зычлівага высакароднага дзівака. Практычная вёска адказвала на зычлівасць прызнаннем, але чакала, покуль слядамі Талстога пойдуць паны. А тыя не квапіліся.

Паклоннікамі Талстога выступалі асобныя адукаваныя сяляне, часта былыя інтэлігенты, якія не атрымалі ў буржуазнай Польшчы доступу да працы па спецыяльнасці, а значыць і да скарбніцы духоўных каштоўнасцей, былі асуджаны на ма-

Увазе чытачоў прапануюцца старонкі кнігі У. Калесніка пра Янку Брыля.

гэтыя не ўтварылі ніякай арганізацыі, нават звычайнага таварыства імя Л. Талстога, але падтрымлівалі сувязі паміж сабой, абменьваліся кнігамі, сустракаліся, гутарылі. Да нічога гэтыя сустрэчы, размовы і дыскусіі не абавязвалі. Колішнія актывісты рэпрэсіраванай уладамі Грамады і Таварыства беларускай школы.—ТБШ, хоць прыветным словам хацелі спатоліць душы, адчуць салідарнасць.

У 1935 годзе ў Заходняй Беларусі разгарэлася вострая палеміка вакол імя Талстога і яго вучэння. Рэдактар віленскай манархічна-памешчыцкай газеты «Slowo» Мацкевіч напісаў да 25-й гадавіны з дня смерці мысліцеля і мастака пасквіль, у якім назваў Л. Талстога «забойцам вялікай нацыі і вялікай дзяржавы». Гэта за тое, што крытыкай самаўладства Талстой спрыяў рэвалюцыі, прычыніўся да яе перамогі. Рыгор Шырма на старонках народнафрантавой газеты «Наша воля» даў належны адпор пасквілянту. Ясна вылажыў публіцыст найбольш блізкія вызваленчаму руху беларусаў ідэі Талстога: «Ён выступае,—пісаў Р. Шырма,—проці духоўнае цемры, якая губіць вёску («Улада цемры»), проці лжывае асветы, якою заражаны горад, вышэйшы клас яго насельніцтва («Плады асветы»)... проці цялесных караў, проці рэлігійных і нацыянальных гвалтаў і г. д. «І Р. Шырма паказаў шчымлівую любоў Талстога да талентаў народных, над якімі глумілася ўласніцкае грамадства («Люцэрн»). Асобна вылучыў ён той факт, што Л. Талстой быў смелым заступнікам сацыяльных нізоў і прыгнечаных народаў царскай імперыі, у іх ліку польскага. Р. Шырма назваў Талстога творцам духоўнага святла, якое слепіць вочы дзецям Чорнага бога, цемрашалам, і заявіў: «Ідэолаг польскага абшарніцтва пан Цат (Мацкевіч) пераймае нянавісць царскай чорнай сотні да Талстога». Польскага рэакцыянера ўзялі пад абарону заходнебеларускія антыкамуністы на старонках угодніцкай газеты «Родны край». Гэта дало падставу Р. Шырме ў артыкуле «Шукаюць абліччa» выкрыць класавую аснову хаўрусу вялікадзяржаўна - нацыяналістычнай польскай, угодніцкай беларускай і манархічнай рускай рэакцыі паказаць, «як з расейскага грунту перафлянцаваны на польскі грунт дух чорнай сотні —гэтага заядлага ворага ўсіх паняволеных народаў». Артыкулы Р. Шырмы Я. Брыль чытаў адразу пасля выхаду, паколькі рэдакцыя «Нашай волі» прысылала на яго адрас газету.

Янка Брыль і яго брат Міша захапіліся творчасцю і асобай

пісан пра іх. Талстой гаварыў там, што маці, якая сама нараджае, корміць і даглядае сваіх дзяцей, не будзе шукаць для іх «матэрыяльнага забеспячэння ў грошах свайго мужа, у дыпломах дзяцей, а будзе выхоўваць у іх тую самую здольнасць самаахвярнага выканання волі божай, якую яна ведае ў сабе, здольнасць несці труд з затратай і небяспекай для жыцця, таму што ведае, што ў гэтым адным забеспячэнне і дабрата жыцця». Спачатку юнакі прымалі Талстога ўсяго і цалкам: мастака і прапаведніка, не бачылі супярэчлівасцей паміж гэтымі двума лікамі волата думкі і слова. Міжвольна дапамагаў ім усвядоміць гэтую розніцу Уладзімір Кот, які прызнаваў толькі Талстога-прапаведніка, а еднасць ідэальнага і рэальнага разумеў напросткі, як тоеснасць. Уладзімір Андрэевіч Кот, сын заможнага селяніна з Міра, па адукацыі чыгуначны тэхнік. У 1919 годзе ён кіраваў зямельным аддзелам Мірскага рэўкома, дзяліў памешчыцкую зямлю паміж сялян і меў рэпутацыю вальнадумца. Пры Польшчы ён проста жыў пры бацьку і як многія інтэлігенты без работы па прафесіі, шукаў праўды-справядлівасці і прыйшоў да этычнага вучэння Льва Талстога. Уладзімір Кот не цікавіўся мастацкімі творамі Талстога, зачытваўся толькі трактатамі, таму і не мог скласці правільнага ўяўлення аб раздвоенасці поглядаў настаўніка, яго пакутлівых хістаннях паміж абсалютам ідэалу дабра, любові, братэрства і недасканаласцю чалавечай натуры, спакуслівай на асалоды. Для У. Ката не існавала мяжы паміж ідэалам і рэальнасцю, ён парываўся давесці здзяйсняльнасць усяго ідэальнага. У імя гэтага жыў бабылём у вечным посце і вечнай працы, верачы, што ўрэшце сыдзе сорам на паноў жыцця, пажыральнікаў зямных слодычаў і раскошаў. Летам 1934 года ён прыйшоў у Загора для асабістага знаёмства з Брылямі і ўразіў іх падабенствам да самаўпэўненага папа, для якога вегетарыянства, пропаведзь апрашчэння і непраціўлення злу гвалтам былі вяршыннымі здабыткамі Талстога, а гуманістычная шырыня, багацце асобы не даходзілі і не краналі. Грамадзянская пазіцыя Талстога, яго барацьба за «обмирщение» маралі, вывядзенне маральных катэгорый за межы царкоўнай дагматыкі, артадоксіі і абрадавых рытуалаў, трактоўка маральных ідэй як універсальных агульначалавечых каштоўнасцей, а не партыкулярна праваслаўных, каталіцкіх, уніяцкіх ці баптысцкіх, пяцідзесятніцкіх, адвенцісцкіх, ягавісцкіх і г. д., або іудзейскіх ці магаметанскіх была для Заходняй Беларусі з яе рэлігійнай і нацыянальнай стракатасцю і раз'яднанасцю таксама момантам станоўчым. Шырокая пастаноўка этычных праблем магла збліжаць актыўныя элементы вёскі на платформе свецкай маралі. Ідэі Талстога будзілі грамадскую актыўнасць сялянскай масы, маглі выступаць свайго роду пераходным мастом ад устарэлага рэлігійнага мыслення, замкнёнага ў рэлігійных дактрынах, да агульначалавечай адкрытай маралі.

Калі гаварыць пра рэгіён, дзе жыў Я. Брыль, дык вучэнне Талстога выступала тут як пошукі грамадска-актыўнымі інтэлігентамі легальных сродкаў духоўнай кансалідацыі ва ўмовах, калі пануючы рэжым забараняў нават такія асветныя арганізацыі, як Таварыства беларускай школы, трымаў пад наглядам спажывецкія кааператывы і нават добраахвотныя пажарныя каманды.

Любоў да Талстога азвалася ў вуснах юных шукальнікаў сэнсу быцця насмешкамі над традыцыйнай праваслаўнай абрадавасцю. Аднойчы Я. Брыль, пад вясёлы настрой, прыгадаў у размове, як дома ў іх святкавалі дзяды. Маці варыла 12 страў, накрывала на стол і клікала сямейнікаў, а тады пачынала ўрачыста маліцца, адбіваць паклоны на кут, дзе меліся бытаваць духі продкаў. Старэйшы брат Мікалай, як гаспадар, першы мужчына ў хаце, пераймаў маці ды перабіраў меру ў заўзятым хрышчэнні. Міша, заўважыўшы гэта, парадзіраваў Мікалая, Янка перадражніваў Мішу, покуль, сустрэўшыся позіркамі, абодва не выбухалі смехам. Абражаная маці прызывала насмешнікаў да парадку.

Захапленне кнігай, самаадукацыяй і ў прыватнасці Талстым, прыбаўляла Брылям новых сяброў.

Уладзімір Кот даў адрасы Данілы Скварнюка і Аляксандра Мазалеўскага: першы жыў у вёсцы Пузевічы, непадалёку ад Скідзеля, а другі ў самым Скідзелі. Брылі пачалі перапісвацца з імі, а потым Янка адведаў іх у пачатку 1937 года. Новыя знаёмыя аказаліся непадобнымі да самога У. Ката. Д. Скварнюк быў дасціпным вясёлым рагатуном і сардэчным чалавекам. У часе гутарак Я. Брыля ўразіла, што ён запанібрата з Талстым, пацяшаецца над крайнасцямі яго маральных наказаў.

Скідзельскія асветнікі мелі сваіх знаёмых, таксама прыхільнікаў Л. Талстога, ажно ў Варшаве. Даніла Скварнюк сябраваў з пісьменніцай і перакладчыцай Амеліяй Курляндскай. У Я. Брыля было ўжо адно пісьмовае знаёмства цераз У. Ката з публіцыстам Іосіфам Вігдорчыкам, які прадстаўляў польскае аддзяленне «Интернационала сопротивляющихся войне», інтэлігенцкай пацыфісцкай арганізацыі, якая ганарылася тым, што да яе належалі такія славутасці, як матэматык Альберт Эйнштэйн і філосаф Бертран Расел.

У скідзельскіх асветнікаў Я. Брыль пазнаёміўся з часопісамі, блізкімі па арыентацыі да маральна-этычных поглядаў Л. Талстога.

Іосіф Вігдорчык, аказалася, перапісваўся з многімі выдатнымі людзьмі—А. Эйнштэйнам, Р. Раланам, а таксама з былым асабістым сакратаром Л. Талстога Валянцінам Фёдаравічам Булгакавым, аўтарам дзённіка «Л. М. Талстой у апошні год яго жыцця» і многіх публіцыстычных прац, прысвечаных прапагандзе маральных і этычных поглядаў свайго настаўніка. Жыў тады Булгакаў у Чэхаславакіі, працаваў дырэктарам рускага музея ў Збраславе, недалёка ад Прагі. Па рэкамендацыі Вігдорчыка Янка і Міша Брылі сталі перапісвацца з Булгакавым. Дзякуючы гэтай перапісцы да вясковых летуценнікаў прыйшло радаснае адчуванне яшчэ большай далучанасці да гуманістычных праблем тагачаснай еўрапейскай культуры. Высокія знаёмствы ўпэўнівалі загорскіх думаннікаў ва ўласнай годнасці, стымулявалі патрэбу развіваць і адстойваць свае ўласныя думкі пра свет і жыццё. Пад уплывам талстоўскай этыкі ў Брылёў склалася адчуванне бязмежнай каштоўнасці чалавечага жыцця, несмяротнасці духоўных скарбаў. Усё гэта стымулявала і жывіла іх уласную творчасць.

На пачатку творчасці Я. Брыль прайшоў складаны этап літаратурнай вучобы, ён пазначаны іменамі класікаў—Крылова і Гогаля, Талстога і Чэхава, Коласа і Купалы і іншых. Школа знаёміла Я. Брыля з польскай і часткова зарубежнаю і беларускаю дзіцячай і юнацкай літаратурай. Нязгаснымі промнямі ўвайшлі ў сэрца творы Канапніцкай, Амічыса, Дзікенса, але прыходзілі яны як мілыя сюрпрызы, што скрашвалі аднастайнасць школьнага абавязку, а душа прагнула радасці і толькі сваёй. Духоўны свет юнацтва ў будучага заходнебеларускага пісьменніка быў тыповым для выхадца з краіны славянскіх этнічных сумежжаў і ростаняў племянных і нацыянальных культур.

Аднак талент Я. Брыля даспяваў пад сонцам двух вялікіх імён—Л. Талстога і А. Чэхава. Першага ён прымаў спачатку па-юначы, захоплена і некры-

(Заканчэнне на стар. 6).

**Мікола ГРЫНЧЫК,**
**доктар філалагічных навук, прафесар**

# ДУМКІ З НАГОДЫ...

Даволі сумна, калі не трывожна прагучалі акорды летняй «Ліры» на экранах беларускай тэлепраграмы (26 ліпеня 1988 г.). І справа тут не толькі ў складзе яе ўдзельнікаў (хоць гэта таксама істотна для абмеркавання тых праблем, якія былі пастаўлены) — занадта сціплыя, можна сказаць, знікомыя вынікі той перабудовы моўнай палітыкі ў рэспубліцы, якая вылучана ў апошнія гады самім жыццём.

А колькі за гэты час было выказана разумных прапаноў, колькі спрэчак, дыскусій, талковых разважанняў?! Верылася, што хоць нейкі зрух будзе, ён павінен быць, ён не можа не быць! І вось перад намі яго папярэднія вынікі: дзесьці там у раёне аўтамабільнага ці трактарнага завода выявілі пару дзесяткаў бацькоў, што жадаюць вучыць сваіх дзяцей на роднай мове, дзесьці прайшлі сустрэчы, спрэчкі, дыскусіі... І раптам зусім выпадковае, але шчырае рэзюме аднаго з уплывовых удзельнікаў дыскусіі (ён жа старшыня спецыяльнай камісіі па справах культуры і мовы Вярхоўнага Савета БССР) — а ці была ўвогуле якая-небудзь «забарона» ці абмежаванне ў вывучэнні роднай мовы ў школах рэспублікі? Такога, бачыце, ніхто не помніць — сталася так, што і вінаватых няма. Або вінаватыя ўсе мы разам?

А на самай справе? Калі шукаць нейкія вытокі гэтай справы, то як тут не ўспомніць вядомую дырэктыву былога начальніка ўпраўлення школ Міністэрства асветы БССР М. П. Дарафеенкі, які, відаць, па санкцыі зверху разаслаў яе па школах Мінска і рэспублікі.

Група бацькоў (у тым ліку і я) звярнуліся тады да дэпутата К. К. Атраховіча-Крапівы з просьбай растлумачыць прычыну з'яўлення гэтай супрацьзаконнай дырэктывы, якую ніхто, ніколі і нідзе не ўхваляў і якая з'явілася на свет божы як яшчэ адна нядобрай памяці валюнтарысцкая ідэя-фікс. Праўда, нам тады не ўдалося да канца зразумець ці растлумачыць прычыну такой прадпрымальнасці адказных міністэрскіх работнікаў. К. К. Атраховічу-Крапіве як віцэ-прэзідэнту і дэпутату таксама... Усё канула ў імглістую вечнасць...

Аднак, калі паглядзець на з'яву дыялектычна, з вышыні рэальнасцей 60-х гадоў, то больш, чым відавочнай становіцца ўнутраная псіхалагічная матываванасць «ахоўных» дырэктыў: яны параджэнне, непасрэдны вынік сталінскай пяцігодкі па знішчэнні ўсяго найбольш перадавога, сумленнага і здаровага ў нашым грамадстве, барцьбы з ленінскімі традыцыямі культурнай палітыкі, духоўнага абнаўлення жыцця. Жупел нацдэмаўшчыны з часоў Бермана і Малянкова злавесна лунаў яшчэ над многімі, а беларускія «дзеці Арбата» толькі вярталіся ў родныя гнёзды... І ніхто публічна не здымаў з іх ярлыкоў нацдэма, правага ці левага «ўкланіста»—у культскім саркафагу з'яўляліся толькі першыя нязначныя трэшчыны. Менавіта ў гэты час інерцыя дагматычнага, дакладней кар'ерысцка-халуйскага мыслення асабліва моцна трымалася ў асяроддзі гарадской і местачковай інтэлігенцыі, што па свайму культурнаму ўзроўню недалёка адбеглася ад «панямонскай» і якая глядзела на родную мову як на мёртвы друз былога пастухоўскага дзяцінства... Трэба сказаць, што міязмы рэнегацтва імкліва распаўсюджваліся і сярод творчай браціі (незвычайны феномен у сусветнай культуры!!) — з хуткасцю ганконгскага грыпу... Для цікавасці пагаварыце цяпер з сямейнікамі некаторых творцаў — і вам стануць зразумелымі карэнні з'явы.

На жаль, удзельнікі сустрэчы ў «Ліры» абмежаваліся пераважна знешняй інфармацыяй аб перспектывах вывучэння мовы ў г. Мінску — грунтоўнага аналізу ці рэальных прапаноў амаль не было. Сапраўды, ці ж справа ў тых лічаных гадзінах, якія павялічылі ў школах і некаторых ВНУ (у некаторых ВНУ, наадварот, паменшылі)?? А што можа даць прымусовае вывучэнне мовы? Мяркуючы па ўзроўню вывучэння замежных, вынік блізкі да нулявога, калі параўноўваць з прыбалтыйскімі школамі, дзе родная мова не шкодзіць, а, наадварот, дапамагае вывучэнню іншых.

Карацей, патрэбны зусім новы ўзровень навучання, новыя праграмы і падручнікі, патрэбна карэнная перабудова ўсёй структуры і метадаў работы ў сярэдняй школе. Так званае «паглыбленае» вывучэнне аднаго прадмета, у тым ліку, і мовы,— таксама не выйсце з крытычнага становішча. Сапраўдны эфект можа даць профільнае навучанне ў старэйшых класах па тыпу гімназій і ліцэяў (гуманітарны або прыродазнаўчы профіль).

Нарэшце, галоўнае, — неабходна ўзняць грамадзянскую актыўнасць вучняў і іх бацькоў, паглыбіць іх патрыятычную і інтэрнацыянальную свядомасць, пачуццё гонару за свой народ і радзіму.

Як вядома, у нашых законах замацавана права на грамадскае карыстанне зямлёю, свабодную працу, сацыяльную абарону правоў, адпачынак і г. д. Аднак ні ў адным законе не замацавана пакуль што права чалавека на карыстанне паветрам (праўда, апошнія законы па экалогіі дайшлі ўжо і да гэтага), а без яго няма жыцця. Тое ж наша родная мова — асноўная жыццядайная крыніца нашай духоўнай культуры, яе незаменны носьбіт і выразнік, неабходная гарантыя яе няспыннага росту і дасканаласці. Дык шануйма яе!



# «ПЕРАД ЗЯМЛЁЙ І ВАДОЙ...»

**Анатолю ГРАЧАНІКАВУ—50**

Сёння кнігі беларускіх пісьменнікаў, нават, я сказаў бы, усю беларускую літаратуру, трэба чытаць і перачытваць нанава. Многае з таго, пра што гаварылі на кожным кроку, паменшала ў сваёй значнасці, а тое, на што мала хто сладзяваўся, усё больш звяртае на сябе ўвагу. Адбываецца своеасаблівая пераацэнка каштоўнасцей. Працэс гэты, зрэшты, натуральны, — толькі сёння, у перыяд перабудовы, ён адбываецца асабліва інтэнсіўна.

У святле перабудовы ярчэй відаць накірунак пошукаў і творчыя здабыткі і таго пакалення беларускіх пісьменнікаў, якія пачыналі на ўзмежжы 50—60-х гадоў, у абстаноўцы спрыяльных сацыяльна-грамадскіх змен, што адбываліся тады па ўсёй краіне. Анатоль Грачанікаў — маладзейшы ў гэтай слаўнай кагорце талентаў, якія ва ўсіх родах і жанрах мастацкага слова магутнаю хваляю ўліліся ў літаратуру, аздаравіўшы і напоўніўшы яе творчы пульс. Сёння яму — слыннаму, шырока вядомаму нашаму паэту — 50. Пражыта, можна сказаць, палавіна жыцця, шмат зроблена, напісана, перадумана. Момант — сур'ёзны: можна і нават трэба падвесці пэўныя вынікі. Я, зразумела, за гэтую справу не бяруся, бо галоўны суддзя сабе — сам паэт, аднак многае відаць і збоку.

Дзяцінства цяжкімі коламі пераехала вайна. Ён меў права сказаць:

**Я кволым быў, але не хваравітым.**
**Я рана ўцяміў, што такое смерць.**

Гэта радкі з першай кнігі, і яны адпавядаюць праўдзе жыцця, адлюстроўваюць лёс цэлага пакалення.

Першая кніга «Магістраль» (1964) засведчыла не малыя мастацкія магчымасці аўтара. Многія вершы і цяпер застаюцца ў памяці. Напрыклад, «От каб быў я такі, як цень!..», у якім расказваецца простая, і суровая, і ў нечым наіўная гісторыя ваеннага часу. Галоднаму хлопчыку ўдалося раздабыць у чужым гумне (потым высвятляецца, што гэта гумно паліцая) крыху ячменю. Спяшаючыся, нясе ён яго дадому.

**От мой брат будзе сёння рад!..**
**Ступу ў хату адразу ўкоціць.**
**Сто ўдараў мой зробіць брат,**
**І ў мяне сіл на дваццаць хопіць.**

**Ну а ты, паліцай, цю—цю!**
**Гад ты смажаны, пытляваны!**
**Будзем есці тваю куццю,**
**Акрыляем — і ў партызаны!**

Аўтара «Магістралі» не спакушала гучная рыторыка дэкларацыі, а больш вабілі прастата, шчырасць і праўдзівасць. Шырока звяртаецца ён да слова «нявобразнага», звычайнага, будзённага.

За першай кніжкай выйшла другая — «Круглая плошча» (1971) і трэцяя — «Грыбная пара» (1973). Непасрэдныя ўражанні дзяцінства ў іх адступілі на задні план, амаль адсутнічаюць, прыйшло новае разуменне складанасці жыцця. Людзі пачалі жыць лепш, забыліся ранейшыя цяжкасці і нястачы, аднак з'явіліся новыя праблемы і трывогі. «Было дарогу цяжка збудаваць, наладзіць рух па ёй цяпер — складаней».

Працэс пазнання жыцця прадоўжыўся ў наступных зборніках — «Начная змена» (1975), «Дрэва на выспе» (1977), «Палессе» (1983), «Я вас люблю...» (1986) і інш. Яны даволі розныя і, думаецца, нераўнацэнныя, аднак усе разам паказваюць, як прагна асоба паэта ўбірала ў сябе шматстайныя праявы сённяшняга супярэчлівага свету, яго трывогі, не абмінаючы ні дробных, ні буйных пытанняў сучаснасці. Лірыка яго жывілася імкненнем глыбей раскрыць дыялектыку чалавечай душы, паказаць шматстайныя адценні яе складанага, эмацыянальна напоўненага жыцця.

**Шарпілаўка цячэ ў жыццё, як Сож,**
**Свае ў яе віры і перакаты.**
**Апоўначы на сцішаныя хаты**
**Мядзведзіца схіляе зорны кош.**
**І ў першароднай цішыні наўкол**
**Я слухаю, прысеўшы на калоды,**
**Як вечнасць, асядаючы на дол,**
**Быцця зямнога запаўняе соты.**

Лірыка-апавядальны стыль, у рэчышчы якога, на нашу думку, развіваецца творчасць А. Грачанікава, — гэта ўраўнаважанасць і стрыманасць у праяўленні пачуццяў, устаноўка на дакладнасць і яснасць вобраза, на інтанацыйную шматграннасць. Верш паэтаў — прадстаўнікоў гэтай стылявой плыні — не вылучаецца асаблівай незвычайнасцю метафар або параўнанняў, нечаканасцю ходаў і паваротаў, але патрэбнае эстэтычнае і духоўнае забеспячэнне ў ім ёсць!

Пчаліныя соты сімвалізуюць у А. Грачанікава мэтанакіраванасць і мэтазгоднасць чалавечага існавання, яго натуральны сэнс і апраўданне. «...Майструюць пчолы клапатліва соты. Не пашкадуй нектару ім, прагрэс!»

Узнікае пытанне:

**А што мы самі знаем аб прагрэсе?**
**Маўчыць прагрэс, маўчыць, як цёмны лес.**
**Каб нам не заблудзіцца ў гэтым лесе...**

А што прапаноўвае для гэтага — каб не заблудзіцца — сам паэт?

Ён змалку прывык давяраць народнай маралі і этыцы, тым нормам чалавечага жыцця і ўзаемаадносін, якія прайшлі суровае гістарычнае выпрабаванне. Такія вершы, як «На Палессі..», «Калодзеж капаюць», «Адведкі», «Ёсць на Палессі старажытны звычай...», «Жнівень сорак пятага года», «Снежная блакада», «Урок арыфметыкі», «Пачастунак» і многія іншыя глыбока і павучальна раскрываюць своеасаблівасць беларускага народнага характару, свет яго маральных уяўленняў. А. Грачанікаву блізкая ідэя гармоніі чалавека і свету, якая ўвасабляецца ў старажытным і заўсёды новым слове **любоў.**

**Перапёлка плача ў жыце,**
**У траве гудуць чмялі.**
**Не гнявіце, а любіце**
**Усё жывое на зямлі.**

Сваім паэтычным шляхам паэт прыходзіць да думкі, што чалавек — таксама частка прыроды. Адсюль вывад: чалавек павінен вучыцца спасцігаць суладдзе і гармонію яе натуральнага развіцця, жывую сувязь мінулага з наступным.

Сёння вершы А. Грачанікава ўдзельнічаюць у тым працэсе ідэйна-эстэтычнага абнаўлення, якое перажывае ўся беларуская паэзія, узбагачаючыся новымі сродкамі выразнасці, свежымі мастацкімі фактамі, здольнымі глыбей, эмацыянальней паказаць унутраны сэнс тых падзей, якія адбываюцца навокал. Хочацца прыгадаць нядаўні лірычны цыкл з будучай кнігі «Пакінутыя гнёзды», змешчаны ў «ЛіМе» (25 сакавіка гэтага года).

**Прыціхне ў прыцемках Прыпяць.**
**Журботна вясло прарыпіць.**
**Калі ж тут нам сеці зарыбіць**
**І колькі гадоў іх сушыць?**

**Хваліцца і небу і зорам**
**Уладнасцю звыклі сваёй.**
**Каму гэта сёння не сорам**
**Перад зямлёй і вадой?**

**Перад нашчадкам-дзіцяткам,**
**Што з будучыні крычыць.**
**І нават**
**Перад птушаняткам,**
**Якому гняздзечка не звіць.**

А побач моцны верш пад назвай «Чуеш, Аляксандравіч, прыязджай...», сапраўды народны па ідэі сваёй і па духу, які над многім прымушае задумацца.

«Перад зямлёй і вадой...»

Новыя вершы вызначаюцца свежасцю і дакладнасцю мастакоўскай думкі, тонкім лірызмам, маральнай абвостранасцю і ўнутраным драматызмам. Уласцівая ўсяму лірычнаму цыклу глыбіня пачуццяў, шчырасць і сардэчнасць адлюстравалі неспакойны, грамадскі па сваёй сутнасці характар самога аўтара.

Паэтычны свет А. Грачанікава творыцца на нашых вачах — намаганнямі яго душы. Гэта, безумоўна, адна з самых цікавых і арыгінальных постацей у сучаснай беларускай паэзіі.

Хочацца, каб так было і надалей.

**Уладзімір ГНІЛАМЕДАЎ.**

**З ПОШТЫ «ЛіМа»**

# «ЛЕПШ ПОЗНА, ЧЫМ НІКОЛІ...»

**Фальклор — душа народа, своеасаблівы летапіс яго жыцця і барацьбы за лепшую будучыню, такую думку праводзіў на занятках па вуснай народнай творчасці наш выкладчык, прафесар Уладзімір Андрэевіч Калеснік — вядомы літаратурны крытык, член Саюза пісьменнікаў СССР. Мне пашчасціла быць яго вучаніцай, слухаць яго лекцыі. Без перабольшвання скажу: гэта былі адкрыцці.**

**На жаль, праграма сярэдняй школы прадугледжвае вывучэнне народнай творчасці толькі ў агульным і вельмі павярхоўным аспекце. Вельмі мала змешчана ў школьных падручніках узораў народнай творчасці, па іх нельга атрымаць дастатковае ўяўленне аб жанравай сістэме, ідэйна-тэматычнай разнастайнасці і паэтычнай дасканаласці беларускага фальклору.**

**Са смуткам успамінаюцца нашы школьныя ўрокі літаратуры, дзе фальклорныя тэмы вывучаліся проста як новы раздзел у кнізе, новая тэма. Веданне і разуменне сувязі фальклору з жыццём, сучаснасцю, літаратурай у нас ніхто не патрабаваў. А што больш патрэбна школьніку? Пратарабаніў «зазубранае» кніжнае правіла і атрымаў адзнаку. Толькі цяпер разумеем, што мы страцілі! Але нельга крыўдаваць на нашых настаўнікаў, бо ўсе яны карысталіся вучэбнай праграмай, дзе адведзена пэўная колькасць гадзін на кожную тэму.**

**І вось скончылі мы школу, атрымалі атэстат. Сярэдняя школа за плячыма, а ў нас сярэдняя адукацыя і сярэднія веды. Добра, калі хто займаецца на літаратурных факультэтах у ВНУ, а астатнія?.. Ды і нам, студэнтам філфака, падчас прыходзіцца ўпершыню знаёміцца з многімі народнымі казкамі.**

**Мне здаецца, трэба больш звяртаць увагі на спадчыну ў нашых школах. Шкада толькі, што позна прыходзіць да нас гэта ўсведамленне. Але, як кажуць у народзе: «Лепш позна, чым ніколі»...**

**Хацелася б даведацца, што думаюць наконт вывучэння фальклору чытачы «ЛіМа», моладзь.**

**Л. МАСЮК,**
**студэнтка**
**Брэсцкага педінстытута.**

## Паэзія

**Уладзімір СКАРЫНКІН**



Каваль гак-гак —
І толькі пятак.
Бацюшка тара-бара —
І рубля паўтара.
**Старая прымаўка.**

●

Чыноўнік гэты жаўтароты
Не жаў,
крыві не праліваў.
Ён толькі ўсіх агітаваў.
За што яму, скажыце,
льготы?

З якой усмешкаю крывою
І як нахабна ён грабе
Дзвюма рукамі пад сябе
Усё,
што сплочана крывёю.

Сядзіць —
пагардлівы і сыты —
Зноў у прэзідыуме ён.
Яму —
шыкоўны пансіён,
Яму —
любыя дэфіцыты.
Яму —
і слава, і пашана,

Падзякі,
прэміі штогод.
У «сысунка»
ўсялякіх льгот
Паболей,
чым у ветэрана.

І крыўдна,
што ў жыцці вірлівым
Негаваркім працаўнікам
Павагі менш,
чым лайдакам
І тарбахватам гаварлівым.

Зусім не мае праў на льготы
Чамусьці той,
хто хлапчуком
Стаяў, галодны, за станком,
Кляпаў у сцюжу самалёты.

Без льгот жыве
каваль ссівелы,
Які апошні свой рубель
Аддаў,
каб грозны карабель
Пабудавалі карабелы...

Снег растае.
Зямля сырая.
Зноў пачынае сонца грэць.
Няўжо, нарэшце,
устарэць
Не зможа прымаўка старая?

### На пахаванні ветэрана

Да катафалка
мы ідзём з вянком...
— А ветэранаў, —
з прыхаваным болем
Гаворыць мне
раённы ваенком, —
У нас на ўліку
з кожным годам болей!

Сказаў,
патупіў вочы і заціх,
А мною авалодала трывога...
Што з кожным годам
усё болей іх —
У гэтым дзіўнага
няма нічога.

Знаёмы сам
з гандляркаю адной,
Якая ледзь разведчыцай
не стала.
Гляджу я
з падсвядомаю вінай
На хлопцаў,
што не сыдуць з п'едэстала.
Затое важна ходзяць па зямлі
Нахабныя,
зайздрослівыя людзі,
Што не свае —
чужыя медалі
Павесілі без сораму на грудзі.

Аб смеласці гавораць не сваёй,
Выкарыстоўваюць
чужыя льготы...
З чужою парадніліся зямлёй
Танкісты, пехацінцы і пілоты.

Яны нічога не раскажуць нам.
Бліскучых медалёў
і пайкі хлеба,
Махоркі
і наркомаўскіх ста грам —
Нічога ім цяпер ужо не трэба.

Адна магіла брацкая —
на ўсіх,
Агульны ордэн іхні —
ліст апалы...
Абуранымі галасамі іх



**Аляксандр ГУТКОВІЧ**

# Кветкі для Алесі

**Закончыў работу над дзвюма аднаактовымі п'есамі. Хацелася абазначыць у іх некаторыя балючыя з'явы часу. Хацелася сказаць пра глебу, на якой вырастаюць нявер'е, раўнадушша, абыякавасць, ідэйны цынізм маладых людзей, пра тое, што разбурае іх веру ў маральныя ідэалы. І яшчэ: п'есы аб эгаізме дарослых, аб унутраных кантактах паміж бацькамі і дзецьмі, дзядамі і ўнукамі, пра тое, як патрэбны моладзі духоўныя настаўнікі.**

**Дзея п'есы, урывак з якой я прапаную ўвазе чытачоў, адбываецца ў доме інжынера Андрэя Жмырова і яго жонкі, медсястры Машы. Тут рыхтуюцца ўрачыста адзначыць прыём у камсамол іх чатырнаццацігадовай дачкі Алесі. Кветкі, пірог бабулі, святочны стол... Павіншаваць унучку прыйшлі бацькі Андрэя — Аляксандра Іванаўна і Мікалай Пятровіч. Завітаў да брата іх сын Віктар. І які ж было здзіўленне ўсіх, калі адчайна рыдаючы, Алеся заявіла: «Не прынялі... Усіх прынялі... Дваццаць два чалавекі... Толькі мяне не. І яшчэ адну дзяўчынку не... Нас дваіх не прынялі...» І яшчэ праз нейкі момант: «Не патрэбен мне ваш камсамол! Чуеце? Больш паступаць не буду. Ніколі. Сама не хачу!..» У глыбокім душэўным узрушэнні дзяўчынка пакідае дарослых, замыкаецца ў сваім пакоі, нікога не дапускаючы да сябе. А потым — стогн. Мацней, мацней. Паніка, перапалох. Маша ўспомніла: там, у пакоі — парашкі, снатворныя. Магла ўзяць, выпіць, многа выпіць. Выклікаюць хуткую дапамогу...**

**АЎТАР.**

З пакоя выходзіць доктар, за ім сястра. Амаль адразу ж адтуль выйшлі Маша і Андрэй.

АЛЯКСАНДРА ІВАНАЎНА (трывожна). Што, доктар?

ДОКТАР. Нервовае ўзрушэнне. Звычайнае нервовае ўзрушэнне. Стрэс. Я зараз выпішу лякарства. Выдатнае лякарства.

МАША (падстаўляе крэсла). Сядайце, доктар.

ДОКТАР (выпісвае рэцэпт). Калі не сакрэт, — што там у яе? Што здарылася?

МАША. У школе. Гісторыя адна.

АЛЯКСАНДРА ІВАНАЎНА. Задужа блізка прыняла да сэрца. Яна ў нас дзяўчынка такая. Веруючая.

ДОКТАР (усміхнуўся). Ходзіць у царкву?

АЛЯКСАНДРА ІВАНАЎНА. У яе царква ў душы. Душа верыць у дабро, справядлівасць. Душа ў яе адгукаецца... На ўсё адгукаецца...

ДОКТАР (падымаецца). Работа душы?.. Дай ёй бог. У маёй дачкі душа дрэмле... (Працягвае рэцэпт). Вось гэтыя таблеткі — тры разы ў дзень. І — спакой. І няхай спіць, колькі ёй хочацца.

МАША. Дзякуй, доктар.

ДОКТАР. Папраўляйцеся. Бывайце. Жадаю поспеху.

МАША. Яшчэ раз дзякуй. (Да Андрэя). Правядзь.

Доктар і сястра пайшлі да выхаду. Насустрач Оля.

МАША. Олечка, дзякуй, прыйшла...

ОЛЯ. Добры дзень. Што гэта ў вас – хуткая дапамога?

МАША. Так, Алесьцы дрэнна.

ОЛЯ. А што здарылася? Дзе яна?

МАША (кіўнула на дзверы). Там. (Да ўвайшоўшага Андрэя). Вось рэцэпт. Бяжы ў аптэку.

АНДРЭЙ. Пачакай, я хачу паслухаць Олю. Ты была ў школе?

ОЛЯ. Так, была. Як я не здагадалася? Дык гэта яна праз сход, што не прынялі? Так перажывае? Ну, Алеська, ну, дзівачка. Падумаеш, не прынялі ў камсамол. Яны яшчэ самі прасіцца будуць. Вы не ведаеце, як гэта зараз? Можна я да яе зайду, я яе хутка супакою. (Хоча ісці).

МАША (прытрымлівае яе за руку). Пачакай.

Маша накіравалася ў суседні пакой. Адтуль выходзіць Аляксандра Іванаўна.

АЛЯКСАНДРА ІВАНАЎНА (да Машы). Заснула. Не трэба. Няхай спіць. (Да Олі). А я цябе, Олечка, даўно не бачыла. Такая красуня стала. Што там у школе было? Раскажы.

МАША (падстаўляе ёй крэсла). Сядай.

ОЛЯ (садзіцца). А яна вам нічога не расказвала?

МАША. Сказала, не прынялі, і плача. Так плакала.

ОЛЯ. Сволач гэты ўсё, хлапчук адзін. Такі гад.

АНДРЭЙ. Хто ён?

ОЛЯ. З нашага восьмага, такая дрэнь. Шалудзька яго. Вось ужо праўда, прозвішча, як чалавек. Шалудзька — шалудзівы.

АЛЯКСАНДРА ІВАНАЎНА. Давай, Олечка, па парадку.

ОЛЯ (не адразу). Так. Значыць так. Прынялі чалавек дваццаць. Як у футбол гулялі. Перакідваліся пытаннямі. Глядзелі, як хто апрануты, — ну, як заўсёды прымаюць. Потым Алеську паднялі — адно пытанне, другое. Ну, таксама так, абы. Ну і давай галасаваць. Усе за. І раптам, устае гэты Шалудзька. «А вось, кажа, я ёй задам пытанне, — гэта Алесьцы. — І яна на яго не адкажа». Усе маўчаць, чакаюць. А ён маўчыць.

АНДРЭЙ. Якое пытанне?

ОЛЯ. Дык я ж і кажу. Маўчыць, стаіць, гэтак здзекліва — ухмыляецца і маўчыць. І раптам, гэтак жа здзекліва, — а ну, Жмырова, скажы: хто генеральны сакратар кампартыі Аргенціны? Алеся стаіць такая перапалоханая, не ведае. І мы не ведаем. Што гэта нам — абавязкова ведаць? Сволач ён такая, гэта ён знарок — дзесьці вычытаў. І зноў ухмыляецца, зларадніча: а хто галоўны ў Эфіопіі.

МІКАЛАЙ ПЯТРОВІЧ. Што?

ОЛЯ. Ну, сакратар іхні, кажа. Хто галоўны сакратар у Эфіопіі? Алеся зусім разгубілася.. А сакратар наш...

АНДРЭЙ (перапыняе). Чаго гэта ён да яе? Чаго ён так — да Алеські?

ОЛЯ. Чаму? Яна яму аднойчы ўрэзала. Пры мне гэта было. Мы ідзём, а ён нам услед. Ой, не магу, такія пахабныя словы. Ну, Алеська павярнулася і так спакойна кажа яму — яна ж умее сказаць... Ты, кажа, Шалудзька, не прайшоў яшчэ стадыю ад малпы да чалавека. Усе як засмяюцца. А ён ажно пазелянеў. Ну, правільная, пра- [illegible] ён, ты мяне яшчэ папомніш.

АНДРЭЙ. Як яго, Шалудзька? Пачакай, гад. Я з ім на сваёй мове пагавару.

ОЛЯ. Не трэба, дзядзька Андрэй. Яшчэ горш будзе. Яго ўсе баяцца.

АНДРЭЙ. Нічога, я з ім разбяруся.

МАША. Не хапала! Звязвацца з пацаном.

АНДРЭЙ. З пацаном? Колькі ад іх зараз зла — ад гэтых пацаноў. А мы ўсё ўбаку, убаку.

МАША. Ёсць каму з імі разабрацца. Без цябе. (Да Олі). Расказвай, Олечка, што далей было?

ОЛЯ. Далей? Алеся, кажу, разгубілася, не адказала. А хто б мог адказаць? Ніхто. І ён, Шалудзька, хіба ён адказаў бы, калі б вось так яму? Гэта ён так, знарок. Вычытаў, кажу. Увогуле, сакратар наш — Вера Крывамазава — ні з таго, ні з сяго і кажа: давайце зноў галасаваць.

ВІКТАР. Дык ужо ж галасавалі, прагаласавалі – за!

ОЛЯ. Так. А яна кажа — давайце перагаласуем.

ВІКТАР. Гэта чорт ведае што!

ОЛЯ. Галасуюць. Зноў галасуюць. І большасць — супроць. Ну, кажа Крывамазава, — супроць дык супроць. Ты, кажа, Жмырова, не прынята.

ВІКТАР. Гэта не можа быць. Я пайду заўтра ў гарком камсамола.

АНДРЭЙ. Гэта ж фармалізм. Чысцейшай вады. Ну, не адказала. Дык мы, дарослыя, не ўсе ведаем — хто там генеральны, хто... Не ў гэтым жа сутнасць...

ОЛЯ. У тым вось і справа!.. Справядлівасць! Перад Алесяй галасавалі за дзяўчо. Фарбуецца, курыць. І не патрэбен ёй камсамол. Ёй бы толькі балдзець. Яе прынялі. І хлапчук — Сазонаў. Таксама. Двоечнік. Падонак, усе ведаюць, што падонак, а прынялі.

МАША. А дырэктар што? Яна ж сядзела ў вас на сходзе!

ОЛЯ. Ой, цётачка Маша. Вы дрэнна ведаеце нашага дырэктара. Яна — ключніца, мы так яе і завём – ключніца.

АЛЯКСАНДРА ІВАНАЎНА. Ну і ну — ключніца...

ОЛЯ. Яшчэ не ўсё. Я яшчэ раскажу. Ну, скончылася гэта галасаванне. І — другое пытанне. Аб тым, дзе адпачываць, як адпачываць. Ну там пра формы ўсялякія гаварылі. І ўсе гамоняць, крычаць, толку няма. Надакучыла гэта нашай Аляўціне Іванаўне, — яна бац — націснула на кнопку магнітафона — і гімн. Гімн Савецкага Саюза.

МІКАЛАЙ ПЯТРОВІЧ (здзіўлена). Што?

ОЛЯ. Гімн Савецкага Саюза ўключыла.

МІКАЛАЙ ПЯТРОВІЧ. Пры чым тут Гімн?

ВІКТАР. Ты, татачка, адстаў. Зараз такі парадак: перад пачаткам камсамольскага сходу і пасля, у канцы выконваецца Гімн.

ОЛЯ. Не, парадак гэта толькі спачатку. Што ў канцы — яна сама прыдумала, Аляўціна Іванаўна. Усё-такі, Гімн, палічыла, не будзе вэрхалу. А яны... Семачкі лузгаюць усе, амаль усе, грызуць кукурузныя палачкі — і Гімн. Ну, так і разышліся.

МІКАЛАЙ ПЯТРОВІЧ (раптам. Вельмі ўсхвалявана). Гэта што ж такое, браткі? Як жа яно магчыма такое? Гэта ж усе стаяць. Гімн гэты ідзе, а яны сабе, камсамольцы — будучае наша, — семачкі лузгаюць, грызуць палачкі кукурузныя... (Узрушаны глядзіць на ўсіх). Гэта ж у імя чаго мы ваявалі? Гнілі ў балотах, вошай кармілі, не спалі, здыхалі, заціснутыя ў кальцо немцамі...

АЛЯКСАНДРА ІВАНАЎНА. Супакойся, Коля.

ВІКТАР. Супакойся, тата. Прымі што-небудзь.

АЛЯКСАНДРА ІВАНАЎНА (у сваіх думках. Гаротна). Зноў будзе арытмія.

ОЛЯ (разгублена. Да Аляксандры

Мне,
быццам рупары,
крычалі калы.

●

Зноў сэрцу горасна
і цесна,
Ізноў сцінаецца душа:
Пяро паблісквае злавесна
Ў руцэ крывавай Лукаша!*

Пясняр —
няўрымслівы і шчыры, —
Які так Беларусь любіў,
Ім зацкаваны, харакіры
Ў гады суровыя рабіў.

Як абарваныя легенды,
Для нас і Цішка,
і Максім...
Дасюль жывуць
нашчадкі Бэндэ!
Мы цiснем рукі нават ім!

Да часу прыхаваўшы зубы,
Якія з мясам вырвуць куш,
Сядзяць у крэслах душагубы —
Забойцы непадкупных душ.

*Лукаш Бэндэ — у 20—30-ыя гады адзін з самых ваяўнічых псеўдамарксісцкіх «тэарэтыкаў» БелАППа.

Каб не паменшылася рэнта
З лухты,
якую выдаюць,
Яны не толькі канкурэнта —
І бацьку роднага заб'юць.

Не злічыш,
колькі даў ліцэнзій
Забранзавелы аксакал
На напісанне злых рэцэнзій,
Што білі творцаў напавал.

Употай —
не на паядынку!—
Паэту-сябру пад рабро
Зайздроснік подлы,
быццам фінку,
Бязлітасна ўваткне пяро.

Кінжал
і корцік варанёны
Пяром макрушнікі завуць...
Нібы крывавыя тампоны,
У небе воблакі плывуць.

Зноў сэрцу горасна
і цесна,
Ізноў сцінаецца душа:
Пяро паблісквае злавесна
Ў руцэ нашчадка Лукаша!

## Вузельчыкі на памяць

Асіру Сандлеру — магаданскаму журналісту, які быў у 30-ыя гады рэпрэсіраваны і вёў «запісы» лагерных падзей у выглядзе «вузялкоў на памяць», завязаных на нітцы ў адпаведнасці з распрацаваным кодам. Сустракаўся ў зняволенні з Мікалаем Забалоцкім.

Вятрамі далеч снежная працята,
Зімовыя пейзажы —
як лубкі...
А ён усё разблытвае зацята
Сваёй балючай памяці клубкі.

Танцуе завіруха белы танец
Сярод ствалоў —
шурпатых і крывых.
А ён перабірае,
як ружанец,
Вузельчыкі
на нітках суравых.

На поўначы далёкай
у берлагу* —

*Берлаг — берагавы лагер.

Там,
дзе дванаццаць месяцаў зіма,—
Пісаў сваю нярадасную сагу
Стваральнік вузялковага пісьма.
Калі,
як воўк галодны,
выла замець
І дрэвы расшчапляў
мароз-траскун,
На Калыме
вузельчыкі на памяць
Завязваў пасівелы «балбатун»*.

Ён сагу пра бясчынствы
і даносы
Ужо разблытаў да канца амаль.
Вузлом тугім завязаныя лёсы
Не развязаць...
Не развязаць, на жаль.

*«Балбатун» (жарг.) — асуджаны за антысавецкія размовы.

●

Як папрацавалі бензапілы!
Сосны векавыя —
напавал...
Ранай незагойнаю
прагал
Напалам разрэзаў
лес панылы.

Навакол —
ні шчэбету,
ні шуму.
Дзе вы,
берасцянкі і зайцы?

Дрэвы,
як сівыя мудрацы,
Думаюць сваю цяжкую думу.

Думаюць,
чаму так вераломна
Мы знішчаем пушчы і бары.
Толькі дзяцел
недзе ў гушчары,
Як заўсёды,
грукае нястомна.

Што нам да таго,
што пушча гіне?
Мы гатовы ўсю яе спіліць!
Толькі ў дзятла галава баліць
Па сасонцы кожнай і яліне.

Там,
дзе скрозь падсочкі і парубы,
Дзе кара цярусіцца з хваін,
Толькі ён стараецца адзін
Родны лес уратаваць ад згубы.

Іванаўны). Можа, не трэба было мне ўсё расказваць? Відаць... (Устае). Вы прабачце...

МАША. Дзякуй, Олечка, што прыйшла. Частуйся. Вось — цукеркі.

ОЛЯ. Дзякуй. (Узяла цукерку). Я пайду. Прывітанне Алесі, я пазваню ёй.

Оля выходзіць. Нейкі момант у пакоі стаіць напружаная цішыня. Ходзіць з вугла ў вугал усхваляваны Мікалай Пятровіч. Штосьці ўзяў са стала і лянiва жуе Андрэй. Падыходзіць да дзвярэй і вяртаецца Маша.

МАША (не адразу). Можа, пап'ём чай? Я чай пастаўлю. (Выходзіць).

ВІКТАР. Ну, я пайду. Мне няма калі.

І толькі Віктар накіраваўся да выхаду — падняўся Мікалай Пятровіч.

МІКАЛАЙ ПЯТРОВІЧ. Віця, пачакай. І я з табой. (Да Аляксандры Іванаўны). Стаміўся я, пайду.

МАША (вяртаецца). Можа, тут адпачнеце, Мікалай Пятровіч?

АНДРЭЙ. Сапраўды, застанься.

МАША. Адпачніце ў нас.

МІКАЛАЙ ПЯТРОВІЧ. Не, не, пайду. (Да Машы). Алесю цмокні ад мяне. (Да Віктара). Пайшлі. (Пайшоў, спыніўся, да жонкі). А ты?

АЛЯКСАНДРА ІВАНАЎНА Я яшчэ пабуду. Ідзі. (Да Віктара). Праводзь яго.

ВІКТАР. Добра, мама.

Віктар і Мікалай Пятровіч выйшлі.

МАША (налівае сабе чай). Ну, і дзянёк... (Да Аляксандры Іванаўны). Вам наліць?

АЛЯКСАНДРА ІВАНАЎНА. Налі, Машачка. (Задумалася). Хоць бы яму ўсё гэта прайшло. Для таты такія стрэсы...

АНДРЭЙ. Не хацеў я пры ім гаварыць — ён так узрываецца, так шуміць. (Налівае сабе чай). Але калі сумленна? Мы тут свае. Ну правільна, і вошай кармілі, і ў балотах гнілі. Ратавалі, можна сказаць, свет. Так... Крывёю, жыццём... Ну, а потым? Усе засталіся вернымі сабе — якімі былі тады? Не, зараз гэта ўжо іншыя людзі...

АЛЯКСАНДРА ІВАНАЎНА. Усе ўжо, па-твойму, іншыя?

АНДРЭЙ. Не ўсе, але многія. Бурчаць, бурчаць — не тая моладзь. Не тая! А самі?... Колькіх такіх я ведаю, і ты ведаеш. На першым месцы карыслівасць, выгада. Сваё, шкурнае, і ніякіх там высокіх мэт.

АЛЯКСАНДРА ІВАНАЎНА. Такіх зараз гоняць. Адусюль.

АНДРЭЙ. Але не гналі. Колькі год не гналі. Дзеці, думаеш, не бачылі, не бачаць, як той жа ветэран, які жыве з імі побач, у адным доме, гаворыць адно, будзь здароў, якія правільныя словы, — а жыве інакш. Калі выказаныя ісціны не пацвярджаюцца справай — гэта... Адсюль яны семачкі, палачкі на сходзе... Камсамольскім...

АЛЯКСАНДРА ІВАНАЎНА (задумалася). Нішто, пэўна, так не разбурае, як няпраўда

Званок у пярэдняй.

МАША. Хто б гэта? Адчыні, Андрэй.

Андрэй ідзе ў пярэднюю. Чуваць яго голас: «Вера Іванаўна?» І ў адказ жаночы: «Можна да вас?»

МАША (зазірнула ў пярэднюю). Хто гэта, Вера Іванаўна? Вось госць, праходзьце.

Уваходзіць немаладая жанчына ў акулярах, высокая, энергічная. За ёю Андрэй.

ВЕРА ІВАНАЎНА (да ўсіх). Добры дзень. (Здымае з сябе паліто, Андрэй забірае. Да Аляксандры Іванаўны). Добры дзень, міленькая. (Абдымае яе). Старэем памалу? (Углядаецца ў яе). Хоць не, не. Вы мне падабаецеся. Добра выглядаеце. У школу не цягне? Колькі гэта мы з вамі папрацавалі разам? Паўтара дзесятка, га?

АЛЯКСАНДРА ІВАНАЎНА. Напэўна. Не меней. Сядайце, Вера Іванаўна.

МАША (падстаўляе ёй адну вазу, другую). Частуйцеся.

ВЕРА ІВАНАЎНА. Дзякую.

МАША. Чаю вып'еце?

ВЕРА ІВАНАЎНА Не адмоўлюся. Што з Алесяй? Мне пазваніла Ніна Рыгораўна. (Да Аляксандры Іванаўны). Вы ж помніце Ніну Рыгораўну? Але. Унучка яе была на сходзе. Кажа, Алесю Жмырову не прынялі ў камсамол. І ў такім, кажа, адчаі пабегла са школы.

АЛЯКСАНДРА ІВАНАЎНА. А вы хіба не былі?

ВЕРА ІВАНАЎНА. Не змагла. Калі б я была... Не ўжо, я б такога не дапусціла. І не дапушчу... Каб Алесю... Я ім такое ўчыню... Дзе яна?

МАША (кіўнула на дзверы). Там... Мы тут такое з ёй перажылі. «Хуткую» выклікалі.

ВЕРА ІВАНАЎНА. З-за гэтага? Хоць што я кажу, трэба ведаць Алесю.

АЛЯКСАНДРА ІВАНАЎНА. Успрыняла гэта як трагедыю.

ВЕРА ІВАНАЎНА. Бедная дзяўчынка. Што ж доктар сказаў?

МАША. Нервовае ўзрушэнне.

ВЕРА ІВАНАЎНА (трывожна). Як яна зараз?

МАША. Пасля ўкола заснула.

Маша падыходзіць да дзвярэй, заглядвае. І ў наступныя мінуты, пакуль пойдзе размова з настаўніцай, Маша не-не, ды і падыдзе да дзвярэй. То проста прыслухаецца, то прыадчыніць, загляне.

МАША. Усё, кажуць, праз гэтага хлапчука. З восьмага — Шалудзьку.

ВЕРА ІВАНАЎНА. Шалудзька!.. Ведаю я яго... Такое было і раней, але за такімі не ішлі. А цяпер ідуць. А ёсць жа добрыя вучні. Але — пасіўныя. «Нічавокі»!.. Адсюль, пэўна, — даеш модныя дыскі, кайф, балдзёж... І словы якія ў іх—ні «добра», ні «дрэнна»... «Нармальна»...

АНДРЭЙ. Усё гэта мае свае карані, дастаткова глыбокія...

МАША. Ну што ж вы не частуецеся, Вера Іванаўна? Гэта мы Алесі свята хацелі наладзіць.

ВЕРА ІВАНАЎНА. Дзякуй, дзякуй. Вы штосьці пачалі пра карані.

АНДРЭЙ. Вось тут была сяброўка Алесі, Оля Кірушкіна. Кажа, калі прымаюць у камсамол — глядзяць і як хто апрануты...

ВЕРА ІВАНАЎНА. Глядзяць. Агідна гэта, але глядзяць...

АНДРЭЙ. Я вось добра ў школе вучыўся, у інстытуце. Нават дыплом з адзнакай. Але я радавы інжынер. І Алесю сваю на ўзроўні высокіх сучасных норм апрануць не магу. А вось тут у нас суседка — у кафэ працуе, у буфеце, — дык яе дачка ў параўнанні з Алесяй, як каралева апранута. А дзеці ж гэта бачаць. Бачаць, што дарагія рэчы, даброты ўсе не працай зароблены, не па заслугах... Хіба гэта можа не ўплываць на дзяцей?

МАША. Алеся тут крычала: не хачу больш у камсамол. Ніколі больш паступаць не буду.

АЛЯКСАНДРА ІВАНАЎНА. Але ёсць жа ў нас добрыя дзеці.

ВЕРА ІВАНАЎНА. Ёсць, ёсць, ёсць!.. Але мы яшчэ мала што робім, каб яны сталі байцамі. Нельга дапускаць, каб такія, як Алеся, страцілі веру ў добрае, не знаходзілі апоры.

МАША. Дырэктар ваша была на сходзе. Куды яна глядзела?

ВЕРА ІВАНАЎНА. Хм, дырэктар... Гэта, як кажуць, пункт асаблівы... Яна, можа, і неблагі чалавек, але... (паказвае на галаву)... тут мала. Прывыкла служыць асобам, выдуманым, уяўным фетышам, а не справе. Думаць не так, як думаецца, а як думаць трэба. А зараз патрэбна хуткая арыентацыя, свая. Свой творчы аналіз, падыход. Моладзь жа якая складаная, працэсы якія складаныя. А ў яе ўзровень не той. Не па Сеньку шапка. Ёй кіраваць школай, сучаснай моладдзю? (Спахапілася). Загаварылася я. Пайду, спраў многа. (Андрэй падае ёй паліто). А наконт Алесі я разбяруся, вы не турбуйцеся. І няхай дзень-другі пабудзе дома. (Пайшла да выхаду, спынілася). Я ўсё пастаўлю на сваё месца.

Вера Іванаўна выходзіць. Андрэй і Маша праводзяць яе, вяртаюцца.

МАША. Добры яна чалавек. Вера Іванаўна.

АНДРЭЙ. Высокая душа.

Маша ідзе да дзвярэй, хоча прыадчыніць іх, і ў гэты момант, захутаная ў плед, у дзвярах паяўляецца Алеся...

МАША (ад нечаканасці адступае). Алеся... Напалохала ты мяне...

АЛЯКСАНДРА ІВАНАЎНА (ідзе да яе). Табе трэба ляжаць, доктар сказаў. Навошта ты ўстала?

АЛЕСЯ. Мне лепш, і я хачу з вамі..

МАША. Табе што, халодна?

АЛЕСЯ. Трошкі зусім...

АЛЯКСАНДРА ІВАНАЎНА (да Машы). Налі ёй чаю, гарачага. І варэння малінавага, ёсць жа ў вас малінавае?

МАША (да Андрэя). Вазьмі там, у кутнім. Наверсе. (Хутка складвае канапныя падушкі). Я табе сюды дам, кладзіся.

АНДРЭЙ (прыносіць варэнне, адкрывае). Ну, дачка, начубучыла ты тут, насмерць перапалохала ўсіх. (Запальвае святло).

АЛЕСЯ. Не трэба, тата. Я не хачу... (Андрэй тушыць). Тут, здаецца, нехта быў... Я чула галасы...

МАША. Вера Іванаўна была.

АЛЕСЯ. Вера Іванаўна? Навошта? Ой, як нядобра...

МАША. Хацела бачыць цябе, што ж тут нядобрага. (Паклала ў шклянку варэнне, ідзе да яе). Пі... Нічога не баліць?

АЛЕСЯ. Галава... А так нічога.

АНДРЭЙ (адпівае чай). Дзівачка ты, Алеся, дзівачка.

АЛЯКСАНДРА ІВАНАЎНА. Маша, Андрэй, пакіньце нас з Алесяй, а? Мы тут пагаворым, пагутарым, пасакрэтнічаем. Добра, Алесечка?

Алеся няпэўна паціснула плячыма.

АЛЯКСАНДРА ІВАНАЎНА. Ідзіце.

Андрэй узяў шклянку, накіраваўся на кухню. Штосьці ўзяўшы са стала, ідзе за ім Маша.

АЛЯКСАНДРА ІВАНАЎНА. Вось мы і адны. (Папрвіла плед). Сагрэлася? Ты пі, пі. Чай з малінай — гэта табе вельмі добра. (Зноў накрывае яе). Ну што, дурненькая, супакоілася?

Алеся доўга думае, маўчыць.

АЛЯКСАНДРА ІВАНАЎНА. Усё яшчэ перажываеш?

АЛЕСЯ. Я ніколі гэта не забуду. І не дарую ім. (Выцірае слязу). Нікому не дарую.

АЛЯКСАНДРА ІВАНАЎНА. Вера Іванаўна сказала, што паставіць усё на сваё месца.

АЛЕСЯ. Не трэба мне, я сказала. Не трэба.

АЛЯКСАНДРА ІВАНАЎНА. Усё, што было да таго, як цябе не прынялі, — мне падабаецца. Ты падабаешся... А вось пасля — зусім наадварот. Так, дзяўчынка, наадварот. І я хачу пагаварыць з табой, як з дарослай.

АЛЕСЯ. Угу, як з дарослай. Вы, пэўна, думаеце, што ўсё гэта так, дзіцячае, несур'ёзнае. Якія там праблемы ў дзіцяці!..

АЛЯКСАНДРА ІВАНАЎНА. Не, Алеся, не думаем. Я вельмі добра разумею: тое, што здарылася, не можа не раніць. Гэта балюча, горка. Але... Навошта ты звязалася з гэтым Шалудзькам, калі яго ўсе баяцца.

АЛЕСЯ. Абысці!.. Мне б за сябе было сорамна, перад сабой, разумееш? (Упарта). Сказала яму і яшчэ скажу.

АЛЯКСАНДРА ІВАНАЎНА. Што?

АЛЕСЯ. А тое, што не прайшоў ён стадыю ад малпы да чалавека. І што я тады за чалавек, калі ніяк не адстойваю, не бараню тое, што варта гэтага, што варта бараніць.

АЛЯКСАНДРА ІВАНАЎНА. Вось гэтая Алеся — мая ўнучка. Гэта Алеся мне падабаецца. Я яе люблю — не таму, што яна ўнучка, а таму, што яна такі чалавек. А вось потым ты трымала сябе дрэнна.

АЛЕСЯ. Чаму?

АЛЯКСАНДРА ІВАНАЎНА. Хлапчук гэты выступіў супраць цябе, таму што ты для яго нешта... антыподнае, разумееш? Чужое... І гэта цудоўна. Ты трымала сябе ў гэтым вашым канфлікце, як баец, як асоба... Дай я цябе за гэта пацалую. (Цмокнула). А потым—крок назад. Нюні, нюні, жаль да сябе, шкадаваць сябе стала. Не, ўжо калі ты хочаш быць байцом, то ты павінна ведаць, што гэта цяжка, вельмі. Што паражэнні на гэтым шляху непазбежныя. Але ёсць і перамогі. І Оля — яна тут таксама была, і Дзіма, і Вера Іванаўна, і, відаць, другія ёсць, — яны з табой, за цябе. Яны цябе любяць. А гэта вельмі многа, калі любяць добрыя людзі. Ты мяне разумееш?

АЛЕСЯ. Разумею.

АЛЯКСАНДРА ІВАНАЎНА. Я табе давала Прышвіна, памятаеш? Ты ж чытала?

АЛЕСЯ. Чытала.

АЛЯКСАНДРА ІВАНАЎНА. Ёсць у яго такія словы. Я помню іх... Праўду, кажа ён, не заганяюць, як цвік... Яна — жывая праўда, жыве і прабівае, як усё жывое, сабе шлях, як вясенні зялёны парастак сярод хламу... Страшна глядзець, якая барацьба... А пройдзе час і ўсё стане зялёным... (Абдымае яе, не адразу). Я на цябе спадзяюся, Алеся...

 

*Музыка*

# У Полацку — пяты сезон

**Камерная музыка — спецыфічны і досыць складаны для ўспрымання жанр — трывала ўваходзіць у жыццё сённяшняга Полацка. Аншлаг на канцэртах камернай і арганнай музыкі тут не здзіўляе нікога. Артысты адзначаюць цеплыню і зычлівасць прыёму, чуласць і ўважлівасць полацкіх слухачоў, здатных зразумець досыць складаныя музычныя творы.**

**Натуральнае пытанне: як магло стацца, што масавы зацікаўлены слухач з'явіўся ў горадзе, у якім камерная музыка ў выкананні прафесіяналаў гучала не часцей чым адзін-два разы на год, ды і то ў амаль пустой зале!**

**Думаецца, найпершая прычына гэтага — адкрыццё канцэртнай залы ў Сафійскім саборы, сама атмасфера якога быццам вызваляе чалавека на нейкі час ад жыццёвай мітусні, засяроджвае на нечым важным, высокадухоўным.**

**Другая прычына ў тым, што зала прыцягнула да сябе ўвагу многіх выдатных савецкіх і замежных выканаўцаў. Яе выдатная акустыка высока ацэнена народнымі артыстамі СССР І. Архіпавай, А. Вядзернікавым, С. Данілюк, В. Нарэйкам, аркестрам «Віртуозы Масквы», Камерным хорам Эстонскай ССР і іншымі.**

**Трэцяя — энергічная і нястомная работа супрацоўнікаў музычнага аддзела Полацкага гісторыка-археалагічнага запаведніка па прапагандзе мастацтва.**

**Сёння ўжо відавочны вялікі ўплыў канцэртнай залы на культурнае жыццё горада, на фарміраванне музычных густаў. Ды відавочна і тое, што прапаганда класічнай музыкі вымагае вялікіх намаганняў і адданасці. І невыпадкова напярэдадні пятага канцэртнага сезона ў Полацку адбылася гэтая наша гутарка, у якой удзельнічалі дырэктар Полацкага гісторыка-археалагічнага запаведніка Т. Рудава, загадчыца музычнага аддзела запаведніка Л. Емяльянава і настаўніца Полацкай СШ № 1 Л. Ціханоўская. Закранаўся пытанні, звязаныя з арганізацыяй канцэртаў і музычнай прапаганды.**

**Л. Емяльянава.** Асаблівых праблем, здаецца, няма. Жыхары горада з прыемнасцю адгукаюцца на прапанову наведаць канцэрт. Але мы цэрпім ад не надта добра наладжанай рэкламы. У цэнтры горада ёсць толькі адна тумба. На яе без усялякага парадку і кантролю наклейваюцца самыя розныя афішы і аб'явы. У іншых раёнах Полацка і ў Наваполацку афішы клеім у любых больш-менш прыдатных на тое месцах, здараецца — на парканах, на аўтобусных прыпынках. А ўсё таму, што ў горадзе няма рэкламнага бюро. Спадзяёмся, што гарвыканком пасадзейнічае яго арганізацыі, і тады набалелае наша пытанне будзе вырашана.

**Т. Рудава.** Вялікую дапамогу ў рэкламе канцэртаў, у распаўсюджванні білетаў нам могуць даць прадстаўнікі культмасавых сектараў прафсаюзаў — заводскіх, розных устаноў горада. Гэтыя людзі павінны зрабіцца нашым актывам. У новым канцэртным сезоне плануем наладзіць з імі сталы кантакт. Вельмі хочацца, каб нашы памочнікі любілі класічную музыку і самі. Бо чалавек абыякавы, прыцягнуты да культмасавай работы прымусова, можа прынесці справе толькі шкоду.

**Карэспандэнт.** Уявім сабе: штомесяц у горадзе наладжваецца каля дзесятка канцэртаў, для жыхароў арганізавана своечасовая рэклама... Але паўстае пытанне: як зарыентавацца ў канцэртнай плыні, абраць тое, што задаволіла б тваё патрэбы? Ёсць выканаўцы, якія не маюць патрэбы ў дадатковай, «вытлумачальнай» рэкламе. Ды іх не надта і многа. Помніцца ажыятаж палачан вакол выступленняў «Віртуозаў Масквы», Ірыны Архіпавай, ансамбля салістаў Вялікага тэатра пад кіраўніцтвам Генадзя Раждзественскага. Але пра многіх адметных выканаўцаў масавы слухач не ведае часам нічога. Можа, у сувязі з гэтым неабходныя анонсы па мясцовым радыё. у раённай і абласной газетах?

**Л. Емяльянава.** У нас багата работы менавіта па паляпшэнні якасці прапаганды. У новым канцэртным сезоне функцыі музычнага рэдактара залы будзе выконваць выпускніца Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі сёлетняга года Н. Давідоўская. Спадзяёмся, яна здолее весці работу на дастаткова высокім прафесійным узроўні.

**Карэспандэнт.** Са студзеня 1988 года, як вядома, канцэртная зала Сафійскага сабора ўключана ў склад Полацкага гісторыка-археалагічнага запаведніка. Ці значыць гэта, што яна ў сваёй музычнай дзейнасці арыентуецца цяпер пераважна на турыстаў?

**Т. Рудава.** Зразумела, не. Хоць і ўлічваем нашы магчымасці і пажаданні экскурсантаў: з сёлетняга года мы ў якасці дапаўнення да экскурсіі па Сафійскім саборы даём арганную ілюстрацыю, якая дае самае агульнае ўяўленне пра выразныя магчымасці інструмента. Шматлікія ж канцэрты музыкантаў, што прыязджаюць у Полацк, наладжваюцца найперш для яго жыхароў. Аднак нас не можа не радаваць жаданне гасцей горада пабываць на канцэртах. Іхнія просьбы стараемся задавальняць. Шмат каго непакоіла, што пераход залы ў склад запаведніка адаб'ецца на якасці канцэртнай работы. Але цяпер наўрад ці ў каго засталіся сумненні. Колькасць канцэртаў не зменшылася, а мы атрымалі магчымасць самастойна дамаўляцца з выканаўцамі самага высокага класа, запрашаць іх.

**Карэспандэнт.** Відаць, ёсць ужо сталыя наведвальнікі канцэртаў у Сафійскім саборы? Ці павялічваецца іх колькасць, ці, можа, змяншаецца?

**Т. Рудава.** Такіх слухачоў у нашым активе 40—50 чалавек. Іх колькасць не змяншаецца, але і надта хутка не расце. Думаю, гэтая лічба пакуль натуральная для нашага горада. Сярод сталых наведвальнікаў — найперш прадстаўнікі інтэлігенцыі: выкладчыкі Наваполацкага музвучылішча, Полацкай музычнай школы, настаўнікі ся-

*Тэатр*

# ЯК МАСТАЦТВА НАРОДУ ВЯРТАЛІ

## НАТАТКІ БЫЛОГА СКАМАРОХА

Акцёры любяць тэатр. Ім здаецца, што яны слугуюць чалавецтву, але... «Калі падымаецца заслона і пры вячэрнім асвятленні ў пакоі з трыма сценамі гэтыя вялікія таленты, жрацы святога мастацтва паказваюць, як людзі ядуць, п'юць, кахаюць, ходзяць, носяць свае пінжакі; калі з пошлых карцін і фраз стараюцца вывудзіць мараль — мараль маленькую, зручна-зразумелую, карысную ў свойскім абыходку; калі ў тысячы варыяцый мне падносяць адно і тое, адно і тое, я ўцякаю...» Гэтаму маналогу амаль сто гадоў, а думкі, выказаныя ў ім чэхаўскім Трэплевым, вельмі сугучныя нашаму часу.

Руціна, інерцыя мыслення, творчы крызіс, безнадзейна састарэлая сістэма выхавання акцёраў і арганізацыі іх працы... Усе гэтыя тэмы — з нядаўніх дыскусій пра тэатр. «Патрэбны новыя формы...» І гэтую трэплеўскую рэпліку доўга паўтаралі шмат якія работнікі тэатра і прапаноўвалі — ладнае, добрае, разумнае... Дух часу доўга патрабаваў перамен на сцэне драматычнай...

Сёння «канторы» адступіліся ад мастацтва (ці надоўга?) і «аддалі» мастакам правы і самастойнасць. Зараз больш за восемдзесят тэатраў краіны праводзяць эксперымент, звышзадача якога — дапамагчы тэатру зрабіцца патрэбным народу. Зразумела, эксперымент мае свае недахопы, але дае магчымасць таленавітым людзям ісці да новага, хоць яно, як вядома, добра забытае старое. Гісторыя айчыннага тэатра багатая на шматлікія варыянты пошукаў лепшай долі для сцэнічнага мастацтва. Але, разглядаючы кожную тэатральную з'яву ў кантэксце гісторыі, мы мусім, як мне здаецца, звярнуць самую пільную ўвагу на асобу мастака, які стаяў каля вытокаў той ці іншай тэатральнай з'явы. Шмат якія цяжкасці старых і новых тэатральных калектываў вынікаюць з таго, што пасады галоўных рэжысёраў ці мастацкіх кіраўнікоў часцяком займаюць там простыя майстры-пастаноўшчыкі. А сапраўдны, мастацкі тэатр нельга рабіць без асобы рэжысёра-мастака. Усе гэтыя ісціны — агульнавядомыя, але на іх так часта забываюцца! І сёння ў шмат якіх рэжысёраў рэгаліі і званні не змяшчаюцца на візітнай картцы, але зрабіцца сцягам свайго тэатра яны наўрад ці ў стане, хіба толькі пераходным вымпелам...

Мой расказ — пра тэатр «Скамарох», арганізатарам і сцягам якога быў Генадзь Юдзеніч. Дваццаць гадоў назад лёс закінуў «Скамароха» на Беларусь, у Гомельскую філармонію, куды яе тагачасны дырэктар А. Бабылькоў, чалавек прагрэсіўны і смелы, запрасіў тэатр пасля вялікага поспеху і... закрыцця яго, забароны ў Маскве. Тэатральных функцыянераў тады напалохаў трэск выламаных дзвярэй сталічнага Тэатра аперэты, дзе «Скамарох» даваў прадстаўленне «О мужике, короне, корове и бабе во всероссийском масштабе». Дзверы не вытрымалі напору ўсіх, хто жадаў трапіць на спектакль. Здзіўляла і конная міліцыя, з'ява тады зусім новая каля тэатральных пад'ездаў. Унікальны выпадак, але на прадстаўленні не змаглі прайсці прадстаўнікі самай найвышэйшай тэатральнай інстанцыі. Для яе арганізавалі асобны паказ, які і зрабіўся апошнім. «У спектаклі зашмат некіруемых падтэкстаў», — быў галоўны папрок тэатральных функцыянераў. Цікавы папрок. Возьмем энцыклапедычны слоўнік: «Скамарохі, вандроўныя акцёры ў Старажытнай Русі, што выступалі як вастрасловы, спевакі, музыкі, выканаўцы сцэнак, дрэсіроўшчыкі, акрабаты. Падвяргаліся ганенням з боку ўлад». Вось іх жанравы дыяпазон: сачыніць вострае слоўца, умець разыграць яго ці спець пад уласную музыку, скакаць і валодаць уласным целам, як акрабат. Умець майстраваць усялякія прылады і рэквізіт... О, колькі талентаў і ўмення патрабавалася скамароху, каб падтрымліваць «прафесійны гонар»! Пра сутнасць іх выступленняў ці, як выказаліся б сёння, «грамадзянскую накіраванасць іх творчасці», лепш за ўсё сказаў іх сучаснік-летапісец: «Глумы деюще и позоры бесовския творяще...» Тагачасным уладарам таксама не падабаліся «некіруемыя падтэксты».

Сёння мы на многае забыліся — са сваёй гісторыі таксама. Існуе думка, што фальклорны тэатр даўно памёр і ажыўляць яго няма сэнсу. Ці ёсць сэнс нагадваць заклікі дзеячаў культуры ў абарону народнага мастацтва? Яны натхняюць мала каго...

У 60-ыя гады адным з тых, хто натхніўся, быў Генадзь Юдзеніч, былы інжынер-будаўнік, выхаванец рэжысёрскага аддзялення Шчукінскага вучылішча. Ён увабраў у сябе лепшыя традыцыі вахтангаўскай тэатральнай школы. І тады ж задумаў адрадзіць славянскае дэль артэ — скамарошскія прадстаўленні, сінтэзаваць іх з традыцыямі італьянскага народнага тэатра масак.

Спачатку акцёраў было ўсяго пяць: Аксана Асіпенка, Таццяна Няпомнячая, Аляксандр Альтэрман, Валерый Матчын і сам Юдзеніч. Усе — яркія індывідуальнасці, усе — выпускнікі Шчукінскага вучылішча. Спецыяльнай «скамарошскай» драматургіі не было. Разлік быў на стварэнне кампазіцый паводле розных аўтараў, сярод якіх былі А. К. Талстой, М. Горкі, А. Чэхаў, І. Крылоў, Г.-Х. Андэрсен, Ж. Прэвер, О. Уайльд і іншыя. Усе гэтыя аўтары адаптаваліся — але ў лепшых скамарошскіх традыцыях, прыпраўляліся вострымі імправізацыямі на тэму дня і дазвалялі ствараць відовішча на сціплай сцэнічнай пляцоўцы. Кожны персанаж вылучаўся сваёй адметнасцю, сваім «не такі, як усе». І ў той самы час гэта была маска: дурань, хітрун, ілгун... Прастадушнасць і бесклапотная шчырасць, з якімі скамарохі паводзілі сябе на сцэне, рабіліся вытанчаным і вельмі сучасным прыёмам. Тэмп існавання на сцэне быў вельмі хуткі. Бесперапынны рух! Скамарошскі тэатр не церпіць невыразнага жэсту; слова, якое вымаўляецца ціха: усё дакладна, рэзка, буйна. Сам Юдзеніч, на мой погляд, акцёр «ад бога». Ён — жывы ўзор магчымасці паяднання дзвюх школ — перажывання і прадстаўлення; таго самага ён дамагаўся і ад сваіх аднадумцаў. На сцэне не было вызначанай мяжы паміж школамі, відамі і жанрамі сцэнічнага мастацтва, але ўся «радасць быцця» была менавіта ў гэтай «пераблытанасці». Акцёры радаваліся самі і прымушалі ўзрадавацца глядзельную залу. Кантакт з ёй быў просты, імгненны і заснаваны на праўдзе. Адсюль — атмасфера ўзаемнага даверу, што хутка яднала гледачоў і акцёраў.

Асаблівыя страсці разыгрываліся вакол спектакля «О мужике, короне, корове и бабе во всероссийском масштабе». Ягоны сюжэт — гісторыя Расійскай дзяржавы ад варагаў да нашых дзён. Юдзеніч сачыняў яго паводле розных літаратурных крыніц і адначасова быццам рабіў «падручнікам» па гісторыі рускага тэатра. Шматстайнасць формаў дыктавалася самім зместам расійскай гісторыі з яе феадальным прыгнётам, заваёвамі, пераваротамі, царамі і тайнаю паліцыяй, катаваннямі і палітычнымі рэпрэсіямі. У спектаклі было шмат герояў і ліхадзеяў. Да таго часу ў «Скамароху» ўжо было 18 акцёраў, у тым ліку і аўтар гэтых нататак, і кожнаму даводзілася выконваць па некалькі роляў, пераўвасабляцца — ці на вачах у публікі, ці за саламяным заднікам, дзе ў кожнага на стуле быў прыгатаваны немудрагелісты рэквізіт, дэталі касцюма і грыму. Гэтае «багацце» складвалася перад спектаклем у тым парадку, паводле якога персанажы з'яўляліся на сцэне. Тэмпарытм прадстаўлення быў такі, што часу разглядаць, хто што апранае-надзявае, не было. Усё адрэпеціравана да аўтаматызму. Паспявай, паварочвайся, а інакш падвядзеш партнёраў. Юдзеніч сам у гэтым спектаклі выконваў больш за дваццаць роляў і паспяваў сачыць за ўсімі. І калі хтосьці на сцэне губляў тэмп, дык Юдзеніч за кулісамі пачынаў гучна адлічваць хвіліны — як метраном.

Фізічныя нагрузкі ў акцёраў «Скамароха» былі, як у балеце, з тою розніцай, што артыст балета на сцэне маўчыць, а скамароху патрэбна было размаўляць уголас, спяваць і, паводле самога Юдзеніча, «з'язджаць з глузду, балансуючы пры гэтым на дроце».

Тады, дваццаць гадоў назад, у Гомелі, скамарохі аддавалі сябе тэатру дарэшты. Рэпеціравалі днямі навылёт. Спектаклі нараджаліся калектыўна — у працэсе працы, у аднадумстве. Ніхто не грэбаваў чорнай работай. Ездзілі на завод, дзе варылі для тэатра металічныя канструкцыі скамарошска-



 

рэдніх школ, урачы. У нас плённыя кантакты з калектывам выкладчыкаў і навучэнцаў Віцебскага музвучылішча.

**Л. Ціханоўская.** Цяпер вялікую папулярнасць набылі аб'яднанні паводле інтарэсаў. Можа, і нам стварыць штосьці накшталт клуба аматараў музыкі? Сталыя наведвальнікі канцэртаў былі б ягоным ядром. Члены клуба пасля канцэртаў сустракаліся б з выканаўцамі ці проста ў сваёй суполцы абменьваліся б думкамі пра пачутае. Паверце, для іх гэта важна.

**Т. Рудава.** Прапанова цікавая. З майго боку пярэчанняў няма.

**Карэспандэнт.** А ці многа моладзі наведвае канцэрты?

**Л. Емяльянава.** Спецыяльнае даследаванне мы не рабілі. Але ведаю, што працэнт немалы, хаця задавальняцца тым, што на сёння маем, нельга. Зразумела, што неабходна часцей бываць у маладзёжным асяроддзі, вывучаць запатрабаванні, улічваць іх, складаючы канцэртныя абанементы. Такая работа пачалася ўжо. Паводле жадання навучэнцаў педвучылішча ім у новым канцэртным сезоне будзе прапанаваны арганны абанемент.

**Карэспандэнт.** А праблемы і перспектывы работы з дзіцячай аўдыторыяй?

**Т. Рудава.** Сёлета нам не ўдалося дамовіцца з Белдзяржфілармоніяй наконт цыкла лекцый-канцэртаў для дзяцей, таму будзем абыходзіцца ўласнымі намаганнямі. Выкладчыкі ДМШ распрацавалі тэматыку абанементаў для школьнікаў з улікам узроставых асаблівасцей. Яны ж дапамогуць і з выканаўцамі. Абанементныя канцэрты новага сезона будуць праводзіцца ў аўдыторыях, максімальна набліжаных да школ горада. Наша канцэртная зала — у аддаленым ад іх месцы. Перавозіць сюды школьнікаў нялёгка, дый часу на гэта патрэбна нямала. Да таго ж, хочацца, каб наведванне Сафійскага сабора не ператварылася для дзяцей у нешта будзённае, а каб засталося святам на ўсё жыццё. Таму і плануем правядзенне ў Сафіі толькі некалькіх канцэртаў для школьнікаў, але абавязкова — на адкрыццё і на закрыццё сезона.

**Л. Ціханоўская.** Мне здаецца жыццяздольным і абанемент сёлетняга года, разлічаны на тры тыдні месяца: першы тыдзень — лекцыя-канцэрт у Сафійскім саборы, другі — лекцыя пра жывапіс у карціннай галерэі, трэці — лекцыя пра літаратуру, падрыхтаваная работнікам дзіцячай бібліятэкі. Вучні, якія ўжо наведвалі гэты лекторый, атрымлівалі цэласнае ўяўленне пра розныя віды мастацкай творчасці. Думаю, ёсць сэнс і ў тым, каб захаваць і іншую традыцыю мінулых гадоў — святочны канцэрт у Сафійскім саборы для дзесяцікласнікаў горада ў дзень апошняга званка. Такая ўрачыстасць запомніцца ім на доўгія гады.

**Карэспандэнт.** За чатыры канцэртныя сезоны ў сценах Сафійскага сабора прагучала вельмі багата твораў эпохі барока — нават можна чакаць паступовага спаду слухацкай цікавасці да такой музыкі. Разам з тым, у праграмы канцэртаў вельмі асцярожна ўключаецца музыка XX стагоддзя, не толькі замежная, а і савецкая. Мы практычна не сустракаемся з праграмамі, якія прапагандуюць беларускую камерную музыку. З чым гэта звязана?

**Л. Емяльянава.** Такое пытанне нам адрасуюць не ўпершыню. Сапраўды, далёка не ўсе музыканты рызыкуюць выконваць творы сваіх сучаснікаў...

**Т. Рудава.** І дарэмна. Зусім нядаўна мы былі сведкамі цёплага прыёму палачанамі твораў А. Шнітке, выкананых ансамблем салістаў ДАВТа пад кіраўніцтвам Г. Раждзественскага. У гэтым выпадку дабратворную ролю адыгралі і бліскучае майстэрства ўсіх музыкантаў, і ўменне знакамітага дырыжора ў кароткім уступным слове расказаць пра стылістыку твора ў зразумелай для масавага слухача форме. Што ж датычыць беларускай камернай музыкі, дык яна прапагандуецца ў рэспубліцы слаба. Нашым выканаўцам ёсць над чым задумацца. Мы не робім уплыву на складанне праграм канцэртаў. Але пастараемся знайсці музыкантаў, здатных задаволіць усе патрэбы слухацкай аўдыторыі.

**Карэспандэнт.** Такім чынам, напярэдзе — пяты канцэртны сезон у Сафійскім саборы. Будзем спадзявацца, што ён пройдзе не менш ярка і ўражліва для палачан, для гасцей нашага горада, чым папярэднія.

Гутарку правяла **Л. ГЕЛЬДЗІНА.**

г. Полацк.

---

га балагану, грузілі іх. Кожны сачыў за сваім гардэробам, касцюмераў не было. Дэкарацыі ладзілі самі. Скамарохі былі на гаспадарчым разліку, і заробак залежаў ад колькасці сыграных спектакляў (плацілі яшчэ і за сумяшчэнне прафесій).

Жылі ў гасцініцы. Вечарамі пасля працы збіраліся разам. За вячэрняю гарбатай працягвалі творчыя пошукі і спрэчкі. Алкаголем не захапляліся. Ведалі па вопыце, што пасля яго не «пацягнеш» ні рэпетыцыю, ні спектакль. Узорам быў Юдзеніч. Шторання, пры любым надвор'і ён рабіў доўгія прабежкі, купаўся ў Сажы. Некаторыя акцёры бегалі разам з ім — паўз калгасны рынак. А ў тыя часы на рынку з шасці гадзін раніцы гандляваў віном прыватны рундучок. Дык вось, цікава было назіраць, як раніцаю жыхары гасцініцы беглі па віно, а скамарохі — на рэчку. Гаспадар віннага багацця, каўказскі чалавек, не верыў, што на Сажы — артысты. «Сапраўдныя артысты, — казаў ён, — бегаюць да нас». Адным разам яго запрасілі на прадстаўленне. Яму так спадабаўся «Мужык...», што ўвечары ён, усхваляваны і здзіўлены, прыцягнуў нам бочачку віна: «Піце, — частаваў ён, — гэта не тое, чым я звычайна гандлюю. Гэта — сапраўднае, як ваша... мастацтва». Потым каўказскі чалавек працягваў ужо на рынку: «Калі вы не бачылі скамарохаў, вы нічога не бачылі». Была і такая рэклама ў тэатра...

Увогуле сяброў у тэатра было шмат. Былі і такія, што скарыстоўвалі прыёмы і знаходкі «Скамароха» ў сваіх знакамітых спектаклях. У Маскве, да прыкладу, некаторыя з тых спектакляў ідуць і зараз...

Пра «Скамароха» шмат пісала цэнтральная прэса. «Самы маленькі, але самы яркі тэатр у свеце», — так выказаўся пра нас часопіс «Театр». Шмат дапамагаў тады «Скамароху» Андрэй Макаёнак, клапаціўся аб хуткім пераводзе з Гомеля ў Мінск. Прыходзіў на рэпетыцыі спектакля «О клопе, бане и всякой дряни», які паказваць так і не дазволілі...

Гэта прадстаўленне задумвалася Юдзенічам паводле твораў Маякоўскага — гэткая мяшчанска-бюракратычная эпапея. У ёй даваўся сацыяльны прагноз грамадства, дзе бюракратыя захоплівае ўладу. Эпапея складалася з дзвюх частак: Мешчаніяды і Бюракратыяды. Кампазіцыйна спектакль быў пабудаваны так, што напачатку знакаміты Пабеданосікаў прыходзіў з прыёмнай камісіяй праглядаць спектакль народнага тэатра «Клоп». Замест «Клапа» была мешчаніяда — асабістае жыццё паэта Еўсігнея Смярдзяшкіна, сучаснага Прысыпкіна, я б сказаў, ягонага сына. Пад час прагляду «разварочвалася і квітнела апаратнае жыццё Бюракратыяды». Спектакль у спектаклі. Пабеданосікаў увесь час перарываў прадстаўленне народнага тэатра, бег на сцэну і вучыў акцёраў, як трэба іграць ролі. Гэта былі з'едлівыя пародыі на парадны тэатр сталінскіх часоў. Пабеданосікаву на сцэне належала «манаполія на ісціну». Ён дакладна вызначаў, хто «наш чалавек», а хто «ачарніцель-злаўмыснік, які адкручвае гайкі ад рэек сацыялізму»; палохаў усіх нейкай кіруючаю асобай Гібель Пампейчам і ўрэшце забараняў спектакль народнага тэатра. Іроніяй лёсу Бюракратыядзе Юдзеніч змадэліраваў сваю тэатральную долю. Рэальныя Гібель Пампейчы ў чарговы раз, але — канчаткова закрылі «Скамароха». Гледачы не ўбачылі «Бураціна-67», «Кандзіда»...

Потым у Юдзеніча былі іншыя спектаклі, але гэта быў ужо другі тэатр — і па форме, і па змесце. Эпоха застою дыктавала свае ўмовы гульні. Чаму тады на Беларусі «Скамарох» пратрымаўся два гады? Мне здаецца, што скамарохі «праслізнулі» па-за свядомасцю тэатральных функцыянераў, а як толькі тыя спахапіліся-схамянуліся, усвядомілі, каго яны трымаюць «у сябе», дык тэатр і закрылі. «Яны як людзі, якія прыйшлі паглядзець на кветку, і для зручнасці на яе селі...»

Сёння час заклікае мастакоў казаць праўду пра тое, што доўгі час замоўчвалася ці ўхвалялася. Час садзейнічае нараджэнню новых тэатраў і абнаўленню старых. Тэатральны эксперымент надае мастакам вялікую самастойнасць, вымагае і вялікай адказнасці. Ці гатовыя мы да такой адказнасці? Звычка да «дырэктыўнага мыслення» — спадчына часіны застою — спарадзіла шмат у каго з мастакоў сацыяльны інфантылізм, неакрэсленасць пазіцый і поглядаў...

Але ці не самі мастакі ў свой час «пераклалі» на плечы «кантор» свой выбар у мастацтве, а потым абвясцілі «канторы» прычынаю ўсіх тэатральных бедаў? Вядома, «канторы» вінаватыя. Але хіба прычыны сённяшняга заняпаду тэатра толькі ў іх? Ці не мы самі столькі гадоў абслугоўвалі гэтыя «канторы» — паводле іх густаў, пажаданняў, разуменняў? Колькі драматургаў дзеля іх ператваралі сваю творчасць у пратаколы вытворчых нарад? А колькі рэжысёраў ставіла «патрэбныя спектаклі», дзе героі сумяшчалі рамантызм і цынізм — на партыйнай аснове — і вырашалі «праблемы» крыва ўбітага цвіка ці коса пакладзенай цагліны? Колькі «майстроў» мастацтва рыхтавалі і рыхтуюць канвеерным спосабам маладую змену для тэатра? Хіба толькі «канторы» вызначалі сённяшні ўзровень прафесіяналізму і майстэрства рэжысёраў і акцёраў? Ці не мы самі застойны перыяд часцяком ператваралі ў запойны? Колькі мастакоў замест змагання за ісціну «змагаліся» са шклянкамі і келіхамі?..

Мяркую, каб вярнуць лідэрства тэатру і адчуць сябе ў ім гаспадаром, тэатральную рэформу мастакам трэба пачынаць з сябе. Прыстойнасць не можа быць усталявана без прыстойных людзей. Сёння нікому не дадзена прадбачыць, якім будзе тэатр праз некалькі гадоў, але неабходна ўсвядоміць, што ягонае развіццё залежыць не столькі ад новых форм, колькі ад новых ідэй. Таму я сёння і згадваю сваю скамарошскую маладосць і Генадзя Юдзеніча...

**Валянцін БУКІН,**
**акцёр**
**Акадэмічнага тэатра**
**імя Янкі Купалы.**

---

*Думка чытача*

# ЧАРГОВЫ ДОКАЗ ДРУГАРАДНАСЦІ,

## або Курс СМК у школе

На працягу доўгага часу такія паняцці, як эстэтыка, мастацтва, духоўнасць, для агульнаадукацыйнай школы лічыліся другараднымі. Колькі слоў аб мастацтве, напрыклад, можна было сказаць, калі заставаўся час ад чаго-небудзь (па меркаванні вышэйстаячых педагагічных інстанцый) больш важнага. Веды ў сферы мастацтва разглядаліся як раскоша, а не як неабходнасць.

У нейкія перыяды гэта было хоць чымсьці апраўдана: у цяжкі пасляваенны час, калі грамадству перш за ўсё патрэбны былі рабочыя рукі і кваліфікаваныя спецыялісты, з такой арыентацыяй цяжка было спрачацца. Але ішлі гады і дзесяцігоддзі, а арыентацыя заставалася ранейшай. Вынікі не прымусілі сябе чакаць, яны праявіліся хутка і відавочна. Дастаткова прывесці ў якасці доказу шматлікія прыклады праяўлення бездухоўнасці моладзі, страты ці дэвальвацыі маральных каштоўнасцей, адсутнасці ідэалаў, спажывецкай псіхалогіі і г. д. Вытокі гэтых з'яў — і ў прабелах у эстэтычным і духоўным выхаванні чалавека.

Добра арганізаванае эстэтычнае выхаванне — гэта не толькі веданне імён тых ці іншых мастакоў, твораў, стыляў і напрамкаў у мастацтве. Яно глыбокім чынам звязана з маральным, духоўным светам чалавека. Сусветная мастацкая культура тысячагоддзямі назапашвала ўсё самае лепшае, высакароднае, гуманнае, што ёсць у душы чалавека. Веданне гэтых назапашаных багаццяў, здольнасць іх аналізаваць даюць магчымасць меркаваць не толькі аб тым, што прыгожа ці агідна, але і аб тым, што маральна ці амаральна, гуманна ці бесчалавечна. Педагагічная практыка, якая склалася ў апошнія дзесяцігоддзі, не прадугледжвала падобнай арыентацыі. Больш таго, строгая рэгламентацыя дзейнасці настаўніка перакрэслівала яго патэнцыяльныя магчымасці, лепшыя пачынанні. І толькі нешматлікія педагогі — з тых, хто не шукаў штомінутнай падтрымкі райана—самастойна звярталіся да гэтай важнай сферы веды і выхавання.

Сённяшні дзень дыктуе пільную неабходнасць перагляду звычных стэрэатыпаў. Пошук новых рашэнняў ідзе ў розных напрамках. Як вызначыць, які з іх акажацца правільным? Першыя крокі ўжо зроблены. Ранейшае Міністэрства асветы БССР (зараз Дзяржаўны камітэт па адукацыі) увяло год назад у агульнаадукацыйных школах рэспублікі ў якасці эксперыменту новы прадмет — «Сусветная мастацкая культура» (СМК). Зможа ён выканаць ускладзеную на яго задачу? Практыка першага года работы па праграме новага эксперыментальнага курса выявіла цэлы шэраг сумненняў. Перш за ўсё, ці ёсць у нас у рэспубліцы кадры, здольныя кваліфікавана, на належным узроўні выкладаць гэты прадмет? Магчыма, яны ёсць, але толькі не ў агульнаадукацыйнай школе. Не рыхтуюць іх і ў педагагічных інстытутах. Рашэнне, якое прынята, выглядае палавінчатым: увесці спецкурсы ў планы некаторых гуманітарных факультэтаў, каб, маўляў, філолагі, гісторыкі, настаўнікі выяўленчага мастацтва, пачатковых класаў, змаглі адначасова быць і выкладчыкамі СМК. Ці вырашыць гэта праблему? Ці не будзе гэта зноў прадуцыраваннем дылетантаў спачатку сярод студэнтаў, будучых настаўнікаў, а потым і школьнікаў? Тлумачыць, што далёка не кожны настаўнік у стане якасна выкладаць новы прадмет, няма патрэбы.

Якое ж выйсце? Неабходна ўвесці ў педагагічных інстытутах новую спецыяльнасць. Толькі ў такім выпадку выкладанне прадмета будзе цэльным і якасным.

Выклікае сумненні і змест курса. Прапануемая праграма практычна паўтарае праграму Міністэрства асветы РСФСР і прадугледжвае вывучэнне матэрыялу з другой паловы XVIII стагоддзя, з эпохі Асветніцтва. На падставе чаго? Чаму сусветная мастацкая культура павінна пачынацца з гэтага часу? Куды дзеліся такія важныя эпохі, як антычнасць, Адраджэнне, сярэднявечча? Любы настаўнік, рана ці позна, так ці інакш, сутыкнецца з праблемай (сутыкнуліся з ёй і аўтары гэтых радкоў), — як растлумачыць у 8-м класе асаблівасці стылю класіцызму, яго вытокі, калі вучні не засвоілі антычную культуру? Яшчэ некалькі прыкладаў. Вядома, што эпоха барока дала сусветнай цывілізацыі помнікі эпахальнага значэння ва ўсіх відах мастацтва і надоўга вызначыла шляхі яго далейшага развіцця. Але вывучэнне гэтага перыяду таксама не прадугледжана праграмай. Гэтак жа непаважна абышліся з гісторыяй культуры Расіі, а таксама з гісторыяй культуры Усходу, якая дала сусветнай цывілізацыі помнікі не меншага значэння, чым еўрапейскія. Мы прывялі ў якасці прыкладаў толькі некалькі фактаў, а іх мноства.

Яшчэ адным істотным недахопам праграмы СМК з'яўляецца тое, што ў ёй няма матэрыялу, прысвечанага беларускай нацыянальнай культуры. Рашэнне, якое прапануе Міністэрства асветы БССР, сапраўды саламонава, укласці ў экземпляры праграмы, якая дасылаецца ў школы, лісткі з тэкстам, прысвечаным гісторыі культуры Беларусі. Маўляў, гэта дае магчымасць настаўніку самастойна прымаць рашэнні, уключаць беларускі матэрыял у свае ўрокі. Такі падыход ні што іншае, як дыскрэдытацыя добрага пачынання, чарговы доказ таго, што нацыянальная культура — гэта нешта другараднае, з ёю кожны вольны паступаць, як яму ўздумаецца. Да чаго гэта прыводзіць, ведае кожны. Толькі распрацоўка самастойнай праграмы СМК з улікам нацыянальных асаблівасцей рэспублікі, прыцягненне да гэтай важнай справы педагогаў-практыкаў, мастацтвазнаўцаў, гісторыкаў зможа выправіць становішча не толькі з самім курсам, але і дапаможа ў вырашэнні іншых праблем адраджэння інтарэсу да нацыянальнай мастацкай культуры.

Ёсць сэнс перагледзець і тэрмін увядзення новага курса і пачаць яго выкладаць не з 8-га класа, а значна раней, скажам, з 5-га ці нават 4-га.

Неад'емнай часткай курса павінен быць падручнік, ілюстрацыйны і фонаматэрыял, нарэшце, метадычныя распрацоўкі. На жаль, выдавецтвы рэспублікі даюць аднназначны адказ на пытанне, колькі часу спатрэбіцца на выданне падручнікаў — многа і вельмі многа.

**Б. ЛАЗУКА,**
**старшы выкладчык**
**Віцебскага педагагічнага**
**інстытута, мастацтвазнавец,**
**Л. БАЗАН,**
**настаўніца СМК 15 СШ**
**г. Віцебска, аспірантка**
**ІМЭФ АН БССР.**

Анатоль ВЯРЦІНСКІ

# «ПЕРАБУДОВА НАША І ВАША...»

## З КІТАЙСКАГА БЛАКНОТА

### ЗАМЕСТ ПРАДМОВЫ

Той, хто ўзяўся б пазнаёміцца з маёй «Нью-йоркскай сірэнай», у прыватнасці з яе другой часткай, прысвечанай сесіі Генеральнай Асамблеі ААН, мог бы заўважыць, што там зусім мала сказана пра Кітай, дакладней — пра пазіцыю, пра выступленні на сесіі кітайскай дэлегацыі. Аўтар тым больш заўважае і ўсведамляе адсутнасць такога раздзела. А між тым такі раздзел быў напісаны і ўключаны ў рукапіс. І быў ацэнены рэцэнзентам станоўча, як адзін з лепшых. Толькі потым, пасля пэўных разваг і ўзаемнага ўзгаднення паміж аўтарам, рэцэнзентам і выдавецкім рэдактарам, ён быў зняты. З палітычна-дыпламатычных меркаванняў. Справа ў тым, што ў выступленнях кітайскіх дыпламатаў, у прыватнасці кіраўніка дэлегацыі, міністра замежных спраў КНР гучала, як правіла, рэзкая крытыка ў адрас нашай краіны, мы ў іх праходзілі па разраду «гегеманіетаў», «сацыял-імперыялістаў», «экспансіяністаў» і г. д., і я выказваў адпаведныя ўражанні ў сваіх нататках. Выказваў з засмучэннем, са шкадаваннем, што такое адбываецца, што такі, яўна не міралюбны характар набылі адносіны паміж дзвюма вялікімі краінамі-суседзямі. Расказваючы пра гасцяванне ў кітайскім пасольстве (разам з іншымі ўдзельнікамі міжнароднага форуму былі запрошаны на традыцыйны дыпламатычны прыём і савецкія дэлегаты), я пісаў: «І мне сумна падумалася пра здрадлівасць лёсу, падумалася пра тое, што маладосць майго пакалення супала ў часе з утварэннем КНР, з яе першымі поспехамі на шляху сацыялістычнай перабудовы, з паведамленнямі газет аб барацьбе Савецкага Саюза і іншых сацыялістычных краін за выгнанне з ААН чанкайшыста і прыняцце ў яе маладой Кітайскай рэспублікі, з шырока папулярнымі, узнёслымі песнямі аб савецка-кітайскай дружбе, накшталт: «Москва — Пекин, Москва — Пекин! Идут, идут вперед народы...». Падумалася пра ўсё гэта ў шуме разнамоўнага застолля. Шкада стала той добрай песеннай дружбы. У адпаведным настроі пакідалі прыём. «До сви-да-ни-я», — нараспеў, са сваім акцэнтам гаварылі нам на развітанне гаспадары пры выхадзе. «Спасибо, до свидания», — адказвалі мы ў сваю чаргу і ўжо за парогам дадавалі мысленна: «Да пабачэння, да новых сустрэч, да новых, лепшых часоў у нашых адносінах!».

Нічога, што гэтыя радкі, гэты кітайскі раздзел не ўвайшоў у кнігу. Усё да лепшага. Галоўнае, што добрыя пажаданні нашы збываюцца. Што сказаў з гэтай нагоды Канфуцый? «Толькі тая — памылка, што не выпраўляецца». І яшчэ: «Калі не ведаюць далёкіх дум, то не пазбягаюць блізкіх засмучэнняў». Гэтую мудрасць можна аднесці і да спраў міжнародных, да сферы вялікай палітыкі.

### СВЕДЧУ: АДНОСІНЫ НАЛАДЖВАЮЦЦА

Адказваю так адразу на адно з першых пытанняў, якія мне задавалі пасля вяртання з Кітая («Як сустракалі? Як да нас адносяцца?»).

Сустракалі добра.

Памылкі выпраўляюцца.

Ва ўзаемадачыненнях паміж дзвюма сацыялістычнымі краінамі зноў бяруць верх «далёкія думы».

Не кажучы ўжо пра дыпламатыю народную, пра той «вышэйшы ўзровень», на якім сустракаецца чалавек з чалавекам. У час адной сустрэчы мяне папрасілі прачытаць які-небудзь верш — каб мець уяўленне, як гучыць беларускае вершаванае слова. Я прачытаў радкі з напісанай дваццаць гадоў назад «Размовы з Ду Фу»:

**Вось так размову мы з Ду Фу вялі.**
**Не падзялялі нас ні дзесяць тысяч лі,**
**ні сотні год, ні розніца між мовамі,**
**ні сцены (як старыя, так і новыя).**
**Быў мне Ду Фу — як самы блізкі друг.**
**Вітаў над намі чалавечы дух.**
**Як брат, са мною гаварыў Ду Фу...**
**...Чытаў я кнігу, за страфой страфу...**

У выпадку з вершам — размова ўмоўная. Ды і над рэальнымі нашымі сустрэчамі і размовамі таксама, калі гаварыць вобразна, вітаў чалавечы дух, дух увагі, добразычлівасці, цеплыні. З першай і да апошняй сустрэчы, ад першага прывітальнага «нінь хао» («добры дзень») да апошняга развітальнага «цзей чэ» («да пабачэння»). Нас шчодра частавалі (кітайская кухня — тэма для асобнай оды), нам ахвотна, з нямалай доляй патрыятычнай гордасці паказвалі свае помнікі, нам цярпліва, з уменнем выслухоўвалі расказвалі, адказвалі на нашыя пытанні. Наогул, праграма знаходжання была складзена так, каб мы мелі магчымасць убачыць і пачуць як мага больш, каб была выкарыстана з карысцю кожная гадзіна. І ажыццёўлена была гэтая праграма — яшчэ раз аддаю належнае гаспадарам — найлепшым чынам: ніякіх накладак, ні малейшага зрыву, а тым больш якога-небудзь эксцэсу. Калі і здаралася якое парушэнне, дык толькі з боку гасцей (нехта спазніўся, нехта не так зразумеў і г. д.).

Высокую культуру сервісу і пунктуальнасць мы ўсё звязваем з той ці іншай еўрапейскай краінай. Дык вось мушу сказаць, што амаль ідэальны варыянт сустрэчы гасцей і арганізацыі паездкі я назіраў на працягу двух тыдняў у Кітаі. Падобна, што ў гэтай дзелавітасці, у скрупулёзным выкананні пэўнай праграмы праяўлялася і адна з нацыянальных рыс народа.

Была афіцыйная праграма, быў пратакол, але было, у дадатак, і яшчэ нешта — вельмі важнае, вельмі істотнае, вельмі дарагое: асабістыя адносіны, асабістая ініцыятыва гаспадароў, якія праяўляліся на працягу паездкі—у слове, у дэталі, у жэсце. Гэта не магло не радаваць, не акрыляць нашу веру ў агульнае будучае двух народаў.

Дэлегацыю складалі тры чалавекі — сакратар праўлення СП СССР, член рэдкалегіі часопіса «Знамя» Юрый Чарнічэнка, намеснік галоўнага рэдактара «Литературной газеты» Аркадзь Удальцоў і аўтар гэтых радкоў. У нашу місію ўваходзіла прадстаўляць літаратурныя выданні краіны. І, адпаведна, нас прымалі, апекавалі нас літаратары, супрацоўнікі літаратурных газет і часопісаў КНР. Адпаведны характар мелі і нашыя размовы, іх тэматычны кругагляд. Закраналася шырокае кола пытанняў — ад становішча з цэнзурай да ролі літаратуры і літаратурных выданняў у перабудове. Павінен сказаць, што нашы кітайскія калегі з вялікай цікавасцю (і, удакладню, зацікаўленасцю) сочаць за грамадска-палітычным і літаратурным жыццём у Савецкім Саюзе, праяўляюць тут незвычайныя і чуйнасць, і дасведчанасць, і разуменне.




Вокладкі свежых нумароў часопісаў.



Здымак на памяць разам з гасціннымі гаспадарамі. Злева направа: прадстаўнік СП Кітая Шце Суцзуан, намеснік галоўнага рэдактара газеты «Вэньбао» («Літаратура і мастацтва»), прафесар У Тайчжан і перакладчыца, супрацоўніца пекінскага Інстытута сусветнай літаратуры Лі Мэн.

Паколькі ў дэлегацыі быў прадстаўнік беларускай пісьменніцкай арганізацыі, то, натуральна, заходзіла размова і пра нашы беларускія літаратурныя справы, пра беларуска-кітайскія літаратурныя сувязі. У прыватнасці, прыемны момант выпаў на маю долю ў час сустрэчы з супрацоўнікамі пекінскага Інстытута сусветнай літаратуры. Калі мне было дадзена слова, я спачатку прадоўжыў тэму, узнятую Ю. Чарнічэнкам і А. Удальцовым, потым сказаў, што хацеў бы дадаць некалькі слоў пра сённяшні дзень беларускай літаратуры. І тут устаў адзін з удзельнікаў сустрэчы, перакладчык і мастак, галоўны рэдактар часопіса «Сусветная літаратура» (на кітайскай мове) Гао Ман і звярнуўся да мяне: «Вы можаце адпачыць, я сам раскажу». І ён здорава дапамог мне. Ён пачаў называць імёны — Мележа, Быкава, Танка, Адамовіча, Панчанкі, Алексіевіч, Шамякіна, расказаў пра новыя пераклады з беларускай (тут ужо нават паспелі перакласці аповесць «У тумане» В. Быкава), пра планы часопіса ў дачыненні да нашай прозы і паэзіі...

Потым Гао Ман, энергічны, таварыскі, жыццярадасны чалавек, расказаў мне яшчэ —у час ужо другой сустрэчы,— што добра памятае свае гутаркі з Максімам Танкам, калі той прыязджаў у пяцідзесятых гадах у Кітай, гаварыў пра свае пераклады з танкаўскай паэзіі. Падзяліўся яшчэ, што цікавіцца як мастак і нашым беларускім жывапісам. Пад яго рэдакцыяй выдадзены ў Пекіне альбом ілюстрацый савецкіх мастакоў-графікаў, у якім змешчаны і рэпрадукцыі карцін нашага Георгія Паплаўскага. Творчасці гэтага мастака Гао Ман прысвяціў і спецыяльны артыкул, змешчаны ў часопісе «Савецкая літаратура» (на кітайскай мове). «Хацеў бы наведаць Беларусь, — прызнаўся ён мне на развітанне Гао Ман. — Гэ Бао-

(Заканчэнне на стар. 14—15).




На адной з вуліц Пекіна. Веласіпедыстам — зялёнае святло.



Сялянкі з дзецьмі. У вёсцы пад Шанхаем.

цярадаснага чалавека? Што адбылося ў яго душы за гэтыя некалькі дзён знаходжання ў Доме творчасці, якія змрочныя карціны пранесліся ва ўгасаючым мазгу? Хто на гэта цяпер адкажа? І яшчэ такая дэталь— назаўтра, 13 сакавіка, калі Аляксандр Якаўлевіч павінен быў вярнуцца дахаты, у яго кватэру пастукаўся міліцыянер і ўручыў сыну паперку, дзе было напісана: «Труп Чорнага А. Я. знаходзіцца...»

Стоп, перавядзём дых...

Не помню, дзе чытаў я расказ аднаго франтавіка, як яму давялося ўпершыню застрэліць ва ўпор варожага салдата і якія душэўныя пакуты перажыў пасля гэтага — моцна нудзіла, не мог есці, спаць. Розумам разумеў, што ідзе вайна, што забіў немца, розумам, а не сэрцам...

У наш мірны, але жорсткі час можна пазбавіць чалавека жыцця без шкадавання, пакут сумлення і д. п. Ляонаў на судзе, дзе прысутнічалі дачка і сын забітага ім чалавека, і не падумаў неяк павінавацічца перад імі, папрасіць прабачэння. Толькі чулася з лавы падсудных: «Я напісаў, мяне выдалі, на маю кнігу былі станоўчыя рэцэнзіі...» Расказваючы пра сябе, паплакаўся суддзі на свой лёс — не адразу прыйшло літаратурнае прызнанне, давялося жыць у інтэрнатах, дваццаць гадоў назад памерла жонка, пакінуўшы яму дваіх дзяцей. Голас падсуднага тут нават задрыжэў. Праўду кажуць, для каторага толькі свая кроў — не вадзіца...

Крыга таксама, даючы на судзе паказанні, заклапочаны быў адным — выкруціцца з гісторыі, у якой ён адыграў такую змрочную ролю. І ён не вымавіў ніводнага слова жалю, спагады да забітага, яго сям'і.

Я слухаў іх і думаў — сапраўды, чалавека нараджае час. Ці не таму застойныя гады адгукаюцца зараз рэцыдывамі двайной маралі, фальшу, крывадушша, жорсткасці,еседазволенасці, амаральнасці?

...Яшчэ і яшчэ пракручваю, нібы кінаплёнку, усё пачутае на судзе. Бачу, нібы ўвачавідкі, абедзенную залу Дома творчасці, пісьменнікаў і іх дамачадцаў, што паважна рассаджваюцца за сталамі, чую мілыя размовы: «А што мы сёння заказалі на абед?» І раптам лаянка, брудная лаянка на ўсю залу. «Зноў п'яны Крыга ўсхадзіўся», — чуецца за сталамі.

Многім сведкам суддзя задавала адно і тое ж пытанне, чаму, назіраючы штодня, як Крыга здзекуецца з чалавека, ніхто не ўмяшаўся, не заклікаў нягодніка да парадку?

Людцы добрыя, як жа мы жывём!

Дарэчы, на адным з адкрытых партыйных сходаў у Саюзе пісьменнікаў, дзе абмяркоўвалася справаздача камісіі, утворанай з нагоды здарэння ў «Іслачы», бадай толькі ў лічаных выступленнях прагучала абурэнне паводзінамі Крыгі, патрабаванне выключыць яго з Саюза пісьменнікаў. Найчасцей чуліся прамовы, прасякнутыя толькі клопатам аб тым, каб не вынесці смецця з пісьменніцкай хаты. Што ж тычыцца Крыгі, дык у яго нават знайшліся абаронцы, якія заклікалі не спяшацца з аргмерамі, маўляў, трэба пачакаць рашэння суда. Быццам не ведалі пра яго паводзіны ў «Іслачы».

Так, аўтарытэт нашага Саюза пісьменнікаў высокі, творчасць многіх беларускіх літаратараў вядомая далёка за межамі рэспублікі, краіны, але пайдзі, скажы пра гэта людзям, што некалькі дзён запар запаўнялі судовую залу, дзе слухалася справа Ляонава. Хай іх? Самі за сябе гавораць кнігі? Так. Але на аўтарытэт літаратуры таксама працуе (ці не працуе) і сама асоба пісьменніка-чалавека.

Вось і напрошваецца пытанне, ці не занадта шчодра ў нас адорваюць членствам у Саюзе пісьменнікаў? Ці не задавальняюцца пры гэтым толькі фармальным бокам справы — выхадам кніжкі? Але ж прэм'ера кнігі — гэта, відаць, яшчэ не заўсёды прэм'ера асобы самога аўтара, яго духоўнай, чалавечай сталасці. Вось і з'яўляюцца людзі з пісьменніцкімі білетамі ў кішэнях, якім хапае пыхі, гіпертрафіраванай ганарлівасці, правінцыяльнага снабізму, але якія пазбаўлены галоўнага — унутранай культуры, інтэлігентнасці, міласэрнасці, любві да блізкага. Хіба не гэта падштурхнула трагедыю ў «Іслачы»?

Ці будзе яна для нас урокам?

І горкі ўрок — урок.

**P. S.**

**Пасля арышту А. Ляонаў на працягу месяца праходзіў у стацыянарных умовах судова-псіхіятрычную экспертызу і не быў прызнаны псіхічна хворым чалавекам. Дома, у Ленінградзе ён, дарэчы, ніколі не стаяў на псіхіятрычным уліку. Тым не менш, літаральна з першага дня працэсу адвакат Ляонава пачаў націскаць на тое, што яго падабаронны душэўнахворы чалавек. Да такой высновы адвакат падштурхоўваў сваімі пытаннямі і некаторых сведкаў. Вось адзін з такіх прыкладаў. Дае паказанні суду калега Ляонава па Ленінградскай пісьменніцкай арганізацыі Я. Кутузаў. Пытанне да яго адваката: «Ці не заўважалі вы за Ляонавым сякія-такія псіхічныя адхіленні?» Той, падумаўшы, адказвае: «Тады я пра гэта не думаў, але цяпер скажу — выступленне Аляксея Данілавіча на адным з апошніх сходаў у нас выклікала неўразуменне — ён быццам забыўся аб парадку дня і гаварыў не па сутнасці».**

**Падумалася тады — колькі на сваім вяку я сустракаў прамоўцаў, якія гаварылі не па сутнасці, сэнс выступленняў якіх наогул нельга было зразумець. Дык што, усе яны былі вар'яты?**

**Дарэчы, на працэсе Ляонаў амаль заўсёды карыстаўся сваім правам задаваць пытанні сведкам, і зразумела было, што ён няблага арыентуецца ў абстаноўцы. У сакратара праўлення СП БССР В. Скварцова, які даваў тлумачэнні суду, ён спытаў: «Чаму Дом творчасці запаўняецца розным народам?», зрабіўшы пры гэтым націск на слове «розным». Пытанне гэтае сведчыла аб маральным абліччы Ляонава, а не аб яго дрэнным псіхічным стане.**

**Але адвакат яго ўсё-такі ўнёс у суд хадайніцтва аб паўторнай судова-псіхіятрычнай экспертызе, якое і было задаволена. На працэс быў выкліканы эксперт-псіхіятр, які тут жа, у судовай зале, папярэдне ачысціўшы яе ад публікі, агледзеў на працягу паўгадзіны падсуднага і прыйшоў да высновы, што псіхічны стан Ляонава не дазваляе яму прымаць удзел у судовым працэсе. Павінна быць назначана новая стацыянарная судова-псіхіятрычная экспертыза. Суд з гэтым пагадзіўся.**

**Падвяргаць сумненню думку эксперта мы не будзем. Спецыяліст, ёсць спецыяліст. Хоць, вядома, дзіўнавата, што на працягу месяца ў псіхіятрычным стацыянары, дзе абследаваўся Ляонаў, не маглі знайсці таго, што знайшоў у яго за лічаныя хвіліны псіхіятр у судзе.**

**Я хачу сказаць пра іншае. Калі новая экспертыза і пацвердзіць, што Ляонаў псіхічна хворы чалавек, няма сумнення, што яго хвароба абвастрылася ад пастаянных п'янак у кампаніі Крыгі і іншых «знаёмых» па «Іслачы». Ёсць такі грубаваты выраз: «Адпіў мазгі». Ці не той выпадак? Невыносна шкада толькі, што загінуў ад гэтага нявінны чалавек.**

**Вось пра ўсё гэта я палічыў патрэбным сказаць чытачам. Думаю, яны зразумеюць, што справа не ў адным Ляонаве.**

Міхась ЗАМСКІ.

# Часопісы ў верасні

## «ПОЛЫМЯ»

**Пад рубрыкай «Да 70-годдзя БССР і КПБ» прапануюцца матэрыялы з «круглага стала», які рэдакцыя правяла ў калгасе «40 год Кастрычніка» Іванаўскага раёна — «Не адрывацца ад зямлі» (справаздачу падрыхтаваў В. Шырко).**

**Часопіс знаёміць з п'есай Я. Купалы «Тутэйшыя» (уступны артыкул А. Сабалеўскага), вершамі М. Танка, Г. Каржанеўскай, Л. Рублеўскай.**

**У раздзеле «Новыя пераклады» — творы Б. Спрынчана (пер. П. Макаля).**

**Сярод іншых матэрыялаў — апавяданні Я. Сіпакова, заканчэнне гісторыка-этнаграфічнага нарыса М. Улашчыка «Вёска Віцкаўшчына», успаміны С. Грахоўскага «Такія сінія снягі», артыкул І. Афанасьева «Палюбіць чалавецтва» (праблемы новага мыслення і новай маралі ў творчасці В. Быкава).**

**Новыя кнігі рэцэнзуюць М. Ермаловіч («З друкаванай і рукапіснай спадчыны К. Каліноўскага»), Ф. Яфімаў («Каханне» Р. Баравіковай).**

**Ёсць раздзелы «З рэдакцыйнай пошты» і «Дзядоўнік на Парнасе».**

## «МАЛАДОСЦЬ»

**У паэтычным сшытку — вершы Ю. Пацюпы, А. Дэбіша, З. Дудзюк, С. Шах, У. Папковіча, М. Дуксы, а таксама азербайджанскага паэта Т. Гаміда (пер. М. Маляўкі).**

**Змешчаны пачатак аповесці Я. Міклашэўскага «Мёртвая крыніца» і заканчэнне аповесці І. Сяркова «Мы з Санькам у артылерыі», апавяданні М. Чарняўскага.**

**Увазе чытача прапануюцца працяг гістарычных нарысаў М. Ермаловіча «Старажытная Беларусь», заканчэнне выступлення П. Ткачова «Рэвалюцыйны трымаем крок».**

**Фотанарыс В. Ждановіча «Рэпартаж з гары Міласці» друкуецца пад рубрыкай «Экалогія і мы».**

**Л. Тарасюк рэцэнзуе раман у вершах Н. Гілевіча «Родныя дзеці» і яго зборнік «Повязь».**

## «БЕЛАРУСЬ»

**Нарыс В. Лапіна «Пагарэльцы і падпальшчыкі» змешчаны пад рубрыкай «Надзённая размова». У «Актуальным поглядзе» выступае А. Дзялендзік — «Дачка Кісельнікава». Публікуюцца вершы Я. Янішчыц, А. Грачанікава, запісы Ф. Янкоўскага «Сям'я. Сямейка», успаміны Я. Скрыгана пра Я. Купалу «Рубец», ненадрукаваныя раней вершы Я. Коласа з прадмовай Н. Чыкілінскай «Гісторыя аднаго знаёмства», апавяданне В. Мудрова «Яша».**

**Прапануюцца заканчэнне нарыса В. Жука «Бераг левы — бераг правы», артыкул А. Наркевіча «Грані слова», «лісткі запісных кніжак» А. Разанава «Каб ісці далей», чарговая старонка «Анталогіі беларускай паэзіі 20-х гадоў».**

**Пра мастака Ю. Пэна згадвае Р. Рэлес («Віцебск, 30-ыя гады...»). Да 160-годдзя з дня нараджэння Л. Талстога прымеркавана выступленне С. Букчына «Уся справа жыцця». Артыкул В. Асташонка «Над Скарынавай кнігай» працягвае серыю матэрыялаў да 500-годдзя з дня нараджэння Ф. Скарыны.**

## «НЁМАН»

**Падборку вершаў А. Грачанікава «Палескі трохкутнік» пераклаў А. Дракахруст. У нізцы «З паэтычных сшыткаў» прадстаўлены творы В. Гадулькі, А. Макрацова, М. Шашкова, В. Грышкевіча, Р. Маргоўскага і іншых аўтараў.**

**Друкуюцца аповесць У. Караткевіча «У снягах драмае вясна» (пер. В. Шчадрыной), заканчэнне рамана Х. Лампо «З'яўленне Іяхіма Стылера» (пер. У. Опіса).**

**Артыкул А. Казловіча «Страшна!» мае падзагаловак «Дзённік карэспандэнта».**

**У раздзеле «Запіскі. Успаміны. Дакументы» прадстаўлены Э. Каспяровіч — «Калыханка». А. Сідарэвіч выступае з літаратурна-крытычным артыкулам «Экскурс у гісторыю...».**

**Ёсць раздзелы «Кніжны агляд», «Учора. Сёння. Заўтра», «На скрыжаваннях мінулага».**

## «МАСТАЦТВА БЕЛАРУСІ»

**Нумар адкрываецца працягам дыскусіі «Купалаўскі тэатр: шляхі і ростані», у якой удзельнічаюць Л. Брандабоўская, В. Манаеў, М. Пінігін, В. Навуменка, А. Ганчароў, Н. Піскарова.**

**Пытанням гісторыі і сучаснага стану выяўленчага мастацтва прысвечаны публікацыі В. Буйвала «Не пагарджаць святым сваім мінулым...», А. Мікалаені «Сучасна пра адвечнае», А. Пікулік «Вернасць», А. Шамрук «Яшчэ раз пра стыль», Ю. Піскуна «Тройца старазапаветная», І. Назімавай «Госці з-за акіяна», інтэрв'ю А. Дэмарына «...Перад неабходнасцю выбіраць».**

**Музычнае жыццё рэспублікі разглядаецца ў адказах на анкету, прысвечаную 50-годдзю Саюза кампазітараў БССР, «Ці будзе гэта свята для ўсіх?», дыялозе Н. Калеснікавай і А. Друкта «Сённяшні дзень сімфанізму», артыкуле Л. Шлег «Калі музы маўчаць...», матэрыяле В. Ліцвінкі і У. Раговіча «Песні восені».**

**Аддзел кіно і тэлебачання прадстаўлены публікацыямі А. Сільвановіча «Самабытнасць таленту», Л. Шылавай «ТБ: праграма на заўтра».**

**Народнае і самадзейнае мастацтва Беларусі асвятляюцца ў «Небе над Лоскам» Г. Сачанкі, «Дыванах Ядвігі Райскай» В. Волах. «Чашы выпітай да дна» В. Вайткевіча, рэпартажы Н. Пятрэнкі «Вясну загукаці...». Я. Саламевіч апавядае пра жыццё і творчасць М. Федароўскага («Збіральнік жэмчугу»).**

**Змешчаны старонкі календара і хроніка мастацкага жыцця.**

## «КРЫНІЦА»

**У раздзеле «Спадчына» прадстаўлены наш зямляк, польскі паэт Т. Лада-Заблоцкі (пераклад А. Баркоўскага). Змешчаны таксама вершы Г. Давыдзькі, апавяданне А. Наварыча «Бабіна золата», пачатак фантастычнага апавядання Г. Лайнэ «Выпрабаванне» (пераклад Я. Лапаткі).**

**Маральна-этычная праблематыка закранаецца ў матэрыялах С. Бартохавай «Каб не прапасці ў адзіночку», А. Усеңі «Экс-закрытая тэма» і іншых.**

**Прапануецца пачатак нататак дырэктара школы У. Граўцова «Сага аб сельскім настаўніцтве», расказ Л. Дайнекі пра князя Войшалка «Агонь і цень», заканчэнне нарыса Я. Скарадзінскага «Жучкі, якія здзівілі свет», развагі кінарэжысёра І. Калоўскага «Фрагменты заўтрашніх кінастужак» (слова пра яго гаворыць В. Небышынец).**

**А. Глобус дзеліцца думкамі пра творчасць К. Малевіча.**

## «БЯРОЗКА»

**Чытач знойдзе працяг фантастычна-прыгодніцкай аповесці М. Зарэмбы «Сакрэт тэлепата», апавяданне А. Фомчанкі «Крынічны пост», вершы А. Грачанікава і С. Грахоўскага, а таксама вершы А. Чурыева, П. Авезліева і А. Хафіза (пер. М. Чарняўскага). У «Вераску» — творы юных паэтаў, здымкі членаў фотастудыі «Святло» рэспубліканскага Палаца піянераў і школьнікаў.**

**А. Вольскі гаворыць слова пра творчасць С. Грахоўскага (да 75-годдзя пісьменніка). А. Трусаў расказвае пра Лідскі і Крэўскі замкі-кастэлі («Сведкі мінуўшчыны, сведкі гісторыі...»). У «Клубе юнага чытача» мовазнавец М. Крыўко разважае пра амонімы, кнігі К. Крапівы «Загадкі дзеда Кандрата» і М. Пазнякова «Дзіўныя «блізняты».**

**Друкуецца заканчэнне «Энцыклапедыі часопіса «Бярозка» — «Чырвоная кніга Беларусі».**

Як на сяле, так і ў горадзе, так і ў сферы кіравання, так і ў галіне культуры.

Перабудова тут, як вядома, пачалася з вёскі. («Таму што, — як растлумачыў у адной з гутарак Дэн Сяопін, — у вёсцы пражывае 80 працэнтаў насельніцтва. Без яе стабільнасці не стабілізуецца і ўся палітычная сітуацыя ў цэлым»). І аб рэальных выніках яе мы маглі меркаваць па тым, як і чым сёння вёска жыве, як сее і збірае, як садзіць сады і гаі цытрусавых, як будуе дамы (асноўны будаўнічы матэрыял — камень, і гэта яшчэ падкрэслівае трываласць справы, цвёрдасць веры ў заўтрашні дзень). Вёска сапраўды на ўздыме. Матэрыяльна і маральна. А ў так званым асобным эканамічным раёне, у правінцыі Фуцзян і канчатковым пункце нашага падарожжа прыморскім горадзе Сямынь, мы маглі назіраць пераўтварэнні ў прамысловасці — павышаную зацікаўленасць людзей, ад дырэктара да радавога рабочага, у выніках сваёй працы, высакаякасную прадукцыю, якая паспяхова канкурыруе на міжнародным рынку, выкарыстанне змешанага капіталу (дзяржаўнага, замежнага і сродкаў, якія належаць самім служачым і рабочым дадзенага прадпрыемства). Тут жа нельга не сказаць і пра такі важны момант, як упарадкаванне кіравання прадпрыемствамі з боку партыйных і ўрадавых органаў. Працоўныя калектывы атрымалі самастойнасць, з іх знята штодзённая адміністрацыйная апека. Пра гэта мы не раз чулі ў сваіх гутарках з кіраўнікамі прадпрыемстваў.

Праблемы сённяшняга Кітая? Яны ёсць і іх нямала. Як старыя, так і новыя. Скажам, праблема перанаселенасці, дакладней — стрымлівання нараджальнасці. У краіне прымаюцца ўсе меры, каб утрымаць да канца стагоддзя насельніцтва ў межах 1 мільярда 200 мільёнаў. Пра некаторыя, у тым ліку новыя цяжкасці гаварыў нам міністр культуры Ван Мэн. Гаворачы пра сітуацыю ў культурным жыцці вёскі, ён, у прыватнасці, з трывогай адзначаў той факт, што ў сувязі з ростам спажывецкіх патрэб і жаданнем некаторых людзей мець шмат грошай, многія юнакі ідуць працаваць на пасялковыя прадпрыемствы, не скончыўшы школы...

...Расказваючы пра сваю перабудову (рэформу), дзелячыся сваім вопытам, пытаючыся, як мы глядзім на іх справы (адзін малады «сялянскі прадпрымальнік» — так менавіта ён прадставіўся — пытаўся настойліва ў нас: «Які ваш погляд на нашу рэформу?»), кітайскія сябры ў той жа час пільна цікавіліся нашай перабудовай, жадалі нам поспеху. Запомнілася, як у сямыньскім аэрапорце мясцовы літаратар (ён жа і настаўнік) Чань Лі пранікнёна, з пачуццём сказаў на развітанне: «Жадаю, каб ваша перабудова была, як наша сённяшняя пагода!» Мы абодва глянулі ўгору. Пагода была па-паўднёваму ясная, сонечная, лётная...



І ў Кітаі любяць марожанае.
Фота А. УДАЛЬЦОВА.

## УПЕРШЫНЮ НА ТЭЛЕЭКРАНЕ

**Аповесць «Адзін лапаць, адзін чунь» — у ліку лепшых твораў Міхася Стральцова. Адметная тонкім псіхалагізмам і праніклівасцю аўтарскага бачання, яна ў свой час, нагадаем, была адзначана прэміяй часопіса «Дружба народов». Таму і не дзіўна, што менавіта да гэтага твора звярнулася сёлета рэспубліканскае тэлебачанне. Пастаноўка называецца «Я — гэта ты», і ажыццявіла яе рэдакцыя перадач для дзяцей. Рэжысёр Л. Тарасава, рэдактар С. Віннік, аўтар інсцэніроўкі Г. Каржанеўская. У ролях заняты А. Пада-бед, Ф. Варанецкі, К. Доўнар, Я. Кавалёва, У. Баклейчаў і іншыя. Галоўную ролю выконвае вучань сярэдняй мінскай школы № 23 Жэня Марціновіч.**

Г. ЗІНКЕВІЧ.

## УДАКЛАДНЕННЕ

**У нумары за 2 верасня ў матэрыяле «Каб не было «белых плям» (стар. 15, чацвёртая калонка, першы абзац) трэба чытаць: «У мінулым годзе кінастужка (праз 52 гады!) адноўлена на кінастудыі імя М. Горкага і ў жніўні гэтага года выйшла на экраны Саюза».**

## *Музам на пацеху*

Іярдан ПАПОЎ

# Націранне насоў

*ГУМАРЭСКА*

Такую цішыню можна адчуць толькі ў трох месцах — у глыбінях акіяна, у бязлюднай пустыні і на нашым сходзе. Усе сядзяць і маўчаць. Ну, хоць хто-небудзь павінен нешта сказаць, але ніхто не можа сфармуляваць думку, не ведае, з чаго пачаць і чым скончыць. А Вялічкаў насядае:

— Таварышы, гэтак мы можам сядзець да самай раніцы, пакуль не прыйдзе прыбіральшчыца. Я лічу, што намаўчаліся мы досыць. Да знямогі намаўчаліся. Вось вы маўчыцё, маўчыцё, а дай вам выйсці адсюль, дык двое звернуць налева, двое — направа, трое пачэшуць прама, і тады ва ўсіх гаворка знойдзецца. Дык кажыце тут, хто што думае, ніхто вас не павесіць...

Ну, дзякуй, суцешыў — ніхто не павесіць. Не хапала яшчэ, каб секлі розгамі і адразалі языкі. Каб здзіралі з жывых скуру. Чаму Вялічкаў не выкажацца больш сучасна і не скажа, што ніхто не вылеціць з работы? А гэтага ён не гарантуе, пэўна ж...

— Ці вы анямелі? — злуецца Вялічкаў. — Вы паглядзіце на гадзіннікі! Чаго яшчэ чакаць? Ці тут нейкі акварыум? А мы рыбы, а не чалавекі? Хіба няма лепшых спосабаў бавіць час? Сядзім і маўчым. Маўчаць — яно лёгка. Кожны зашыўся ў сваю шкарлупіну і думае пра сваё. Ці здала дачка экзамен, ці прыходзіў тэхнік паправіць пральную машыну, ці прыйшла жонка з цырульні і ці згатавала вячэру?.. Ну, хто возьме слова? Хто смелы?..

Мы пераглядваемся. А раптам хто-небудзь узяў блізка да сэрца Вялічкавы папрокі, дык пабачым жа — хто смелы?

Маўчанне. Ніхто не спяшаецца сказаць і двух слоў. Ужо робіцца невыносна. Зараз у каго-небудзь не вытрымаюць нервы, хто-небудзь устане і скажа доўгую прамову. Галоўнае, вытрываць да трэцяга націску. Трэба думаць пра што-небудзь староннняе, каб зняло напружанне... Што гэта там за машына на двары завялася? Жыгулёк нечы загуў, здаецца... Каб зглямэздаць на гэту тэму што-небудзь у духу народнай песні, папрактыкаваць мазгі...

Загаманіў жыгулік у двары,
да кучы цэглы ён загаварыў:
— Гэй ты, цэгла, гэй
чырвоная,
чырвоная — неапаленая,
ці з цябе гараж мне
збудуюць,
ці нічому ты не вартая?
— Ой, вартая, мой ты
жыгулёчак,
на ўсё вартая, мой саколік:
і пад кола тваё легчы,
і капот табе раструшчыць,
і шкло ў друз табе
разнесці...
Чые рукі мяне возьмуць...

Тут мяне злякнуў голас Вялічкава. Ён быў прасякнуты пагардаю:

— Ну, гэта ўжо ні на што не падобна. Вось вазьму і я замаўчу нарэшце, тады пабачыце. А хто там шэпчацца? Хто шэпчацца — набярыся смеласці ды скажы ўголас! Ага, значыць, у некага шалік упаў, дык пра гэта гаворка. Ну, брава, гэта ўсё-такі нейкі пачатак. Адзін сказаў — у некага ўпаў шалік, той адказаў — дзякуй, глядзіш, нехта возьме слова і выкажацца па сутнасці... Ну, даволі, гэта проста смешна! Выкажыце, што ў каго ёсць, ды разыдземся. У рэшце рэшт, мы ўсе дарослыя людзі, у кожнага ёсць іншы занятак...

Што гэта зрабілася? Чаму ўсе як вады ў рот набралі? На мінулым жа сходзе Вялічкаў папярэджваў, што дэмакратыя — гэта не балбатня абы пра што, чаму ж тады маўчаць?

— Ну дык што? — злаваў Вялічкаў не на жарт. — Можа, запішам у пратакол аднадушнае маўчанне? Ці раздаць вам чыстыя аркушы, каб кожны намаляваў сваю думку? Ці, можа, заспяваць нам хорам? Не ведаю, як вы адчуваеце сябе зараз, а мне дык проста сорамна. Сорамна глядзець на вас. Дэмакратыя зусім не ў тым, каб маўчаць і глядзець у акно. Трэба вызначыць сваю пазіцыю ў далікатнай і неадкладнай справе. Устань і як член камісіі дастойна выкладзі сваю думку. Але няхай, як усе мы стомленыя, дык можна і седзячы. Можна не ўставаць. Няхай бы ўзяў слова самы старэйшы, як у старажытных Афінах. Альбо, наадварот, самы малады. Маладым паўсюль у нас дарога, ім не пазычаць адвагі. Эх, чаму сярод нас няма жанчыны, тады б вас не трэба было цягнуць за язык... Была б жанчына, дык адзін стараўся б вызначыцца розумам, другі — бліснуць досціпам, трэці прыгадаў бы лацінскі афарызм. У калектыўныя органы абавязкова трэба ўключаць і жанчын, хіба не? Ці хто мае іншую думку па жаночаму пытанню? Можа, хто лічыць, што месца жанчыны — толькі на кухні і ў пасцелі? Ну, гаварыце ж, ну хоць што-небудзь!

Маўчанне. Насценны гадзіннік у калідоры адлічыў дзесяць удараў.

— Я ўспомніў адзін анекдот, — азваўся нехта.

Хто б гэта? Бач ты, Саваў загаварыў. З якой гэта пары ён узяўся расказваць анекдоты?

— Ну дык раскажы! — падахвоціў яго абнадзеены Вялічкаў. Усё-такі ў сцяне маўчання ўтварылася трэшчына.

— Можа, не варта, ён не зусім прыстойны, — завагаўся Саваў.

Настала лёгкае ажыўленне.

— Нічога, расказвай, мы тут усе мужчыны.

— Можа, у ім ёсць нейкая сувязь з пытаннем, якое абмяркоўваем...

— Не абмяркоўваем, — удакладніў Вялічкаў, — а па якім маўчым, як пні... Расказвай анекдот, ды пачнём абмеркаванне!

— Вы яго, напэўна, ведаеце...

— Не ведаем, расказвай!

— Ды ведаеце... Пра эскімоску, якая закахалася ў палярніка...

— Ага... І што далей?

— Ну, кожны раз, калі палярнік ішоў правяраць прыборы, з бліжэйшага сумёта выскоквала эскімоска і пачынала церціся сваім носам з ягоным. У эскімосаў гэта любоўная гульня. Аднаго разу палярнік не паглядзеў, колькі градусаў марозу і...

— Стоп, стоп! — спыніў яго Вялічкаў. — Не забывайцеся, што мы не вырашылі галоўнага пытання. Дык вось: расказвай анекдот, але адразу пасля гэтага мы пачынаем сур'ёзнае і дзелавое абмеркаванне. У рэшце рэшт, мы сабраліся тут не дзеля таго, каб расказваць анекдоты. Калі пасля гэтага анекдота пра эскімоску зноў усе будзеце маўчаць, дык гэта ўжо будзе скандал. Гэта ўжо непавага да саміх сябе. Проста дэманстрацыя.

— Не, я не магу ўзяць на сябе такую адказнасць, — скурчыўся на сваім месцы Саваў.

— Якую адказнасць?

— Я не магу даць гарантыі, што пасля майго анекдота пачнецца сапраўднае абмеркаванне. Больш таго, вы можаце зрабіць мяне яшчэ і вінаватым, што ўнёс у абмеркаванне несур'ёзную ноту і тым самым праваліў яго. Мне ўжо даводзілася пасёрбаць такой кашы, ведаю...

— Ну, другары, — скрыжаваў на грудзях рукі Вялічкаў, — ці ёсць патрэба пераконваць яго, што пасля эскімоскі мы зоймемся дзелавым абмеркаваннем? Ці зноў будзем маўчаць?

Поўнае маўчанне.

Пачырванелы ад гневу Вялічкаў абвяшчае:

— У такім разе нараду адкладваю на заўтра ў гэты ж час. Кожны з вас будзе мець магчымасць падумаць і наконт сваіх паводзін. Усе свабодныя... Саваў, а ты, калі ласка, застанься на хвіліну!

З балгарскай пераклаў Уладзімір АНІСКОВІЧ.

Марцін КОЎЗКІ

## ДОЛЯ ПРАЎДЫ

— На ўсё трэба талент, — сакатала курыца, — салавей не пяе ў клетцы не таму, што не пяецца, а таму, што не кудахкаецца.

●

Матыка перажыла саху не таму, што саха горшая за матыку, а таму, што плуг лепшы за саху.

●

Нічога не засталося ад кентаўраў? А коні, што выскаляюцца? А мужчыны, што ржуць?

●

У прыцемках арыенцірам служыць нешта больш цёмнае.

●

Каротка пра зайца: не трус.

●

Помнікі гісторыі: «Тут стаялі помнікі архітэктуры».

●

— У вас дзіўны густ, — сказаў я яму. — Гэта ў вас багатая фантазія, — адказаў ён. Зраўняліся: і ў яго няма густу, і ў мяне фантазіі.






Малюнкі А. Папова.




з 12 па 18 верасня

12 верасня, 18.00

**«ЗАПРАШАЕ ЧАСОПІС «БЕЛАРУСЬ»**

Вядучая — пісьменніца Х. Лялько.

У перадачы прымае ўдзел пісьменнік Я. Лецка.

12 верасня, 18.25

**«ЗАЧЫТАЙЦЕ МАЕ ПІСЬМО...»**

Агляд крытычнай пошты тыдня.

15 верасня, 19.25

**«ПАЭЗІІ РАДОК ЧАРОЎНЫ...»**

Вершы Я. Коласа чытае І. Дзянісаў.

15 верасня, 21.50

**«ЛІРА»**

«Вяртанне забытых імён» — такі падзагаловак перадачы, прысвечанай М. Галадзеду. У ёй прымаюць удзел В. М. Белякова-Галадзед — дачка М. Галадзеда, Р. С. Гаеўскі — адзін з першых беларускіх камсамольцаў, У. Якутаў — пісьменнік, П. Краеўскі — былы намеснік упраўлення справамі Савета Міністраў рэспублікі, С. А. Чарвякова — дачка А. Чарвякова, стары камуніст М. Аўхімовіч.

Вядучы — журналіст У. Сцепаненка.

16 верасня, 19.50

**«БУГ»**

Літаратурна-мастацкі часопіс.

Будуць прадстаўлены дзве кнігі В. Сахарчука: паэтычны зборнік «Даніна» і пераклады класіка балгарскай літаратуры П. Яварава «Апалавы персцянёк».

17 верасня, 13.20

**«МЕТРАНОМ»**

Музычна-публіцыстычная праграма.

Што адбываецца сёння з сучаснай песняй — тэма гаворкі, якую вядуць беларускі кампазітар Э. Ханок, спевакі В. Пархоменка, В. Кікабідзе.

Вядучая — музычны каментатар Э. Язерская.

18 верасня, 15.15

Прэм'ера песні. В. Іваноў. У. Сцепаненка. «Чароўны палёт».

18 верасня, 16.20

Я. Глебаў. «Мільянерка». Спектакль Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі БССР.

Рэжысёр В. Іванова.

У ролях: народная артыстка рэспублікі Н. Гайда, заслужаныя артысты БССР Р. Харык, К. Лосеў, артысты В. Пятліцкая, А. Цівуноў і іншыя.

18 верасня, 19.20

**«У НЯДЗЕЛЮ ВЕЧАРАМ»**

Іграе А. Алоўнікаў (віяланчэль).

У праграме творы Баха, Гендэля, Бакерыні, Шуберта, дэ Фалы, Сен-Санса, Фарэ.

18 верасня, 23.10

**«СУСТРЭНЕМСЯ ПАСЛЯ АДЗІНАЦЦАЦІ»**

Інфармацыйна-музычная праграма.

## АБ'ЯВЫ



«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
АТ 01350 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела пісьмаў — 33-19-65, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 33-24-62, аддзела народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 32-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.

Матэрыялы прымаюцца надрукаванымі на машынцы (праз два інтэрвалы). Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.